PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 48 (2220) Год XLIII Беласток 29 лістапада 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Выбары ў Чыжах

Першая сесія новай Рады гміны ў Чыжах адбывалася крыху пазней, чым у суседзяў, бо 5 лістапада 1998 года. Пятнаццаць новых радных з'явіліся ў будынку гміны ў камплекце і пасля прысягі і абмеркавання парадку пасяджэння ўзяліся выбіраць старшыню. У галасаванні перайшла кандыдатура Міхала Мароза, раднага і солтыса з Шастакова, члена сельскагаспадарчай палаты ад гміны Чыжы, які пазней павёў пасяджэнне. Радная з Каменя Хрысціна Гаўрылюк, якая прапанавалася на намесніка старшыні, не перайшла ў галасаванні і паколькі не было больш ахвотных на гэтую пасаду, радныя вырашылі гэтыя выбары адтэрмінаваць. Затым радныя выслухалі інфармацыю войта Грыгорыя Мацкевіча аб працы ўправы.

Гміна Чыжы налічвае больш за 3200 жыхароў, сярод якіх 97% гэта праваслаўныя беларусы і 3% — палякі-каталікі. У гміне больш чым 13 тыс. гектараў зямлі, адной з найлепшых у ваяводстве, бо ў вялікай ступені пшанічна-бурачанай, але дзейнасць гміны і фінансаванне інвестыцый залежыць у большай ступені ад датацый. На 2 мільёны 57 тысяч злотых гміннага даходу, ажно 1 мільён 486 тысяч зл. (72%) састаўляюць датацыі, а невялікая колькасць жыхароў адмоўна ўплывае на іх велічыню. Па гэтай прычыне войт Мацкевіч назваў сваю гміну беднай, у якой няма магчымасцей на вялікія інвестыцыі, а ўсе пабудовы рэалізуюцца ўласнымі сродкамі.

Інфармацыя стала ўступам да выбару войта. Спачатку паявілася прапанова, каб выбіраць па конкурсе, але не перайшла ў галасаванні (7 за і 8 супраць). У гэты момант шасцёх радных выйшлі з залы, папрасіўшы, каб адзначыць гэта ў пратаколе. Дзевяць радных, якія засталіся на зале вылучылі толькі адну кандыдатуру былога войта Грыгорыя Мацкевіча, які кіруе гмінай з 1989 года. Выбраны ён быў аднагалосна.

— Апошні раз хачу стаць войтам, бо буду адыходзіць на пенсію, — сказаў Грыгорый Мацкевіч. — Буду намагацца праводзіць газіфікацыю, каналізацыю і тэлефанізацыю гміны, звяртаць увагу на асвету і ахову здароўя. Паспрабую жыць у згодзе з усімі і не звальняць з працы.

Пазней радныя вырашылі пакінуць зарплату войту на тым самым узроўні. Затым галасавалі ў справе стварэння камісій, неабходных змен у бюджэце і некаторых іншых актуальных спраў. Выбар намеснікаў старшыні ўправы і членаў камісій быў адтэрмінаваны на наступнае пасяджэнне.

— Найважнейшыя справы для гміны — гэта давесці да парадку дарогі, дафінансаваць школьніцтва, бо думаем захаваць усе школьныя ўстановы, стварыць у гміне гімназію, — сказаў нававыбраны старшыня рады Міхал Мароз.

**Аляксей Мароз**



*Клезмерская капэла Сейненьскага тэатра.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Перамога жыдоўскай музыкі і бульбяной кішкі

**Ганна Кандрацюк**

**Канцэрты клезмерскай капэлы з Сейн, Віктар Шалкевіч, беластоцкая бульбяная кішка і літоўскі „мурашнік" — фурор IV Фестывалю нацыянальных меншасцей, які ў днях 13-15 лістапада г.г. праходзіў у Гданьску.**

У Гданьск падалася я з місіяй. Праўленне беларускай эміграцыі Памор'я загадала прывалачы ў Гданьск дзесяць кілаграмаў бульбяной кішкі. Я, як паклонніца гарадоцкага шлягера „Бульба сення, бульба ўчора", задачу палічыла гонарам.

Арганізатар фестывалю, Саюз украінскай незалежнай моладзі, сярод сваіх дасягненняў павінен адзначыць, што дзякуючы ім у Беластоку даведаліся пра асаблівасць кішкі ды паднеслі на вышэйшы ўзровень самаацэнку.

— То яны там у Гданьску не маюць сваёй кішкі, — не магла надзівіцца і заадно налюбавацца беластоцкай кантоўнасцю прадаўшчыца ў краме па вуліцы Каперніка. У іншых магазінах таксама дзівавaліся і цешыліся перавагай Беластока над Гданьскам. Пішу пра „іншыя" крамы, бо ў ніводнай з іх не было ўжо дзесяці кілаграмаў і трэба было мне з'ездзіць палову Беластока. Чаго чалавек не зробіць для нашых выхадцаў?

Расказ пра кішку і заадно пра крэатыўную ролю фестывалю падхапіў Віктар Шалкевіч і Эва Мароз-Кэчынская, якіх сустрэла я на чыгуначным вакзале ў Беластоку. У час супольнага падарожжа бард расказваў пра перыпетыі звязаныя з Фестывалем.

— Дзякуючы гэтаму фестывалю ў Гародні даведаліся, што я — спявак, — сказаў Віктар. — Арганізатары даслалі запрашэнне на адрас Азотнага прадпрыемства. Там узнік закалот, якога даўно ніхто ўжо не памятаў. У гарачцы пачалі шукаць нейкага Шалкевіча. Найперш сярод кіраўніцтва, пазней адміністрацыі, урэшце рабочых.

На шчасце на Азотным заводзе не знайшлі другога Віктара Шалкевіча і не паслалі яго замест славутага барда. Дарэчы, выхадцы пільна сачылі за аўтэнтычнасцю спевака, які часта выступаў як нацыянальная меншасць — у Беларусі.

У праграме фестывалю прадугледжваліся: семінар для лідэраў няўрадавых арганізацый, агляд фільмаў пра меншасці (між іншым пра акцыю „Вісла" — „Raj Utracony"), музыка і каштаванне нацыянальных страў.



*Выступае Віктар Шалкевіч.*

Гітам праграмы паказалася мне народная гасціна. Пад музыку ўкраінскага маладзёжнага гурту „Хутір", капэ-

[працяг ☞ 4]

## Аптымістычны зандаж

У сапраўднасці эканамічная сітуацыя Беларусі набліжаецца да катастрофы. У гэтым годзе жніва паспяхова прайшло толькі ў тэлебачанні. У рэспубліцы сабралі з палёў на 15 працэнтаў меншы плён чым у мінулых гадах.

[з Беларусі ☞ 2]

## Радныя могуць выпіць

Пачалася працэдура выбару войта. Пасля заслухання праграмаў паасобных кандыдатаў радныя ставілі ім пытанні. Найбольш пытанняў атрымаў папярэдні войт Міхал Іванчук. Пасля зачытання ягонай заявы аб некаральнасці радны Аляксандр Шыманскі ў сваю чаргу прадставіў даведку з Раённай пракуратуры, з якой вынікала, што ў 1991-1998 гадах Міхал Іванчук пяць разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за правапарушэнні ў нецвярозым стане.

[з Орлі ☞ 3]

## Старыя міфы ў новым выданні

На пачатку гэтага года ў Кракаве выйшла кніжка вядомага сацыёлага прафесара Уладзіміра Паўлючука *Ukraina. Polityka i mistyka*. Адзін з раздзелаў кніжкі аўтар прысвяціў таксама фарміраванню беларускай нацыянальнай свядомасці. На жаль, паўтарыў ён вельмі старыя тэзісы, прапагандаваныя яшчэ на пачатку XX стагоддзя расійскімі нацыяналістычнымі газетамі, паводле якіх беларускую нацыянальную ідэю прыдумала каталіцкая шляхта.

[рэцэнзія ☞ 4]

## Прыносіў людзям радасць

Юрка Налівайка апрача свайго песеннага хобі займаўся спортам. Ён быў адным з першых на Беласточчыне заснавальнікаў валейбольнага гуртка ў Гарадку. Быў яго дзеячам, іграком і трэнерам. Выконваў розныя функцыі ў мясцовай і павятовай радах ЛЗС.

[успамін ☞ 5]

## Леснікам і іх сем'ям

11 лістапада 1998 года ў Тапіле адбылося асвячэнне помніка леснікам і іх сем'ям, загінуўшым у 1939-1945 гадах. Урачыстасць прымеркавана была да Дня незалежнасці.

[падзея ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Страшная хвароба пагражала Жыровіцкаму манастыру

Зміцер Кісель

17 лістапада ў Жыровіцкай праваслаўнай семінарыі быў зняты каранцін, які доўжыўся з 21 кастрычніка. Прычынай увядзення каранціннага рэжыму стала заражэнне чатырох семінарыстаў брушным тыфам.

У сярэдзіне мінулага месяца адзін з навучэнцаў Жыровіцкай семінарыі запрасіў двух калегаў з'ездзіць у госці да сваіх бацькоў у Менск. Там хлопцы спажылі ежу, заражаную мікробамі брушнога тыфу. Гасцінны бацька, які нічога не падазраваў, перад зваротнай дарогай у Жыровіцы даў хлопцам харчоў у запас.

Праз некалькі дзён усе трое семінарысты захварэлі. Затым праявы брушнога тыфу з'явіліся яшчэ ў аднаго навучэнца, які пачаставаўся прывезенай з Менска ежай.

Адразу пасля гэтага Гарадзенская абласная санэпідэмстанцыя ўвяла на тэрыторыі Жыровіцкага манастыра каранцін. Па словах загадчыцы эпідэміялагічнага аддзела станцыі Алены Максімавай, усе чацвёра семінарысты былі змешчаны ў шпіталь пад пільны нагляд лекараў. Былі адменены экскурсіі ў манастыр, якіх у дні восеньскіх школьных канікулаў было запланавана вельмі шмат. Семінарысты маглі пакінуць манастыр толькі ў надзвычайных выпадках і з дазволу лекараў. Набажэнствы пры іконе Жыровіцкай Божай Маці не спыняліся, але прычасце не праводзілася.

17 лістапада скончыўся інкубацыйны перыяд хваробы. Лекары ўпэўніліся, што распаўсюджванне тыфу не адбудзецца. Стан здароўя семінарыстаў, якія захварэлі, ужо нармальны і яны выпісаныя са шпіталя.

— У нас усё абышлося добра, — кажа спадарыня Максімава. — А вось бацьку семінарыста, які пачаставаў хлопцаў, не пашанцавала. Ён таксама захварэў і, хаця яго жыццё па-за пагрозай, знаходзіцца ў цяжкім стане.

## Сустрэча на мяжы... Ці толькі дзяржаўнай?

12 лістапада на памежным кантрольна-прапускным пункце Мядзіненкай — Каменны Рог адбылася сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Літвы Аляксандра Лукашэнкі і Валдаса Адамкуса.

Паводле звестак афіцыйных беларускіх сродкаў масавай інфармацыі, прэзідэнты абмяняліся інфармацыяй аб эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў сваіх дзяржавах, абмеркавалі пытанні двухбаковых адносін. Кіраўнікі абедзвюх краін выказаліся за пашырэнне кантактаў паміж грамадзянамі, няўрадавымі арганізацыямі, установамі друку і інфармацыі Беларусі і Літвы. У сувязі з гэтым было дамоўлена аб стварэнні сумеснага фонду імя Францыска Скарыны. Беларускі бок таксама паабяцаў прыняць неабходныя меры для выплаты доўгу літоўскім экспарцёрам за пастаўленую ў Беларусь электраэнергію.

Дзяржаўная прапаганда Беларусі прадставіла спатканне на мяжы, як паўнавартасную афіцыйную сустрэчу „ў вярхах". На прэс-канферэнцыі, якую беларускае тэлебачанне паказала ў адной з інфармацыйных праграм, Аляксандр Лукашэнка заявіў: „Мы нават не закраналі праблемы свабод, правоў чалавека. Я яшчэ раз заяўляю аб тым, што ў Беларусі сёння не меньш правоў і свабод, чым у літоўскіх грамадзян".

Прэзідэнт Беларусі сказаў, што даў свайму літоўскаму калегу поўную інфармацыю пра дзейнасць Саюза Беларусі і Расіі. Па словах Лукашэнкі, Валдас Адамкус адказаў, што ён „ні ў якім разе не можа супрацьдзейнічаць Саюзу Беларусі і Расіі і перашкаджаць нашым добрым адносінам — наадварот".

Калі верыць перакладу беларускага тэлебачання, Адамкус поўнасцю пагадзіўся з Лукашэнкам і назваў адбыўшуюся сустрэчу плённай.

Зміцер Кісель

PS. Відаць не была яна надта плённая, бо 17 лістапада ў Міністэрства паліва і энергетыкі Беларусі паступіла пісьмо Міністэрства энергетыкі Літвы, у якім гаворыцца, што калі ў бліжэйшы час не будуць праводзіцца аплаты, літоўскі бок абмяжуе падачу электраэнергіі. **З. К.**

## Вырас доўг

Па дадзеных аддзела перспектыўнага развіцця, інавацыйнай палітыкі і энергазберажэння Міністэрства эканомікі Беларусі па стану на 5 лістапада доўг краіны за прыродны газ расійскаму акцыянернаму таварыству „Газпрам" склаў 257,7 мільёна долараў ЗША. У пачатку гэтага года запазычанасць Беларусі за газ павялічылася на 163 мільёны долараў.

Знешняя запазычанасць за электраэнергію з пачатку года павялічылася на 86 мільёнаў долараў і дасягнула 106,6 мільёна. **Зміцер Кісель**

## Аптымістычны зандаж

15 лістапада ў інфармацыйнай праграме Беларускага тэлебачання „Рэзананс" славуты рэдактар Зімоўскі прадставіў вынікі апытання грамадзян Беларусі наконт даверу палітыкам і ўстановам гэтай краіны. Зразумела, найвышэйшы давер маюць грамадзяне да прэзідэнта і афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі. Даверае ім звыш 48 працэнтаў жыхароў Беларусі. Найменш людзі давяраюць — паводле слоў Зімоўскага — палітычным партыям і апазіцыйным сродкам масавай інфармацыі.

Наступны рэпартаж у праграме „Рэзананс" датычыў забеспячэння насельніцтва харчовымі таварамі. Нават тыя, што давяраюць афіцыйным сродкам масавай інфармацыі, сваімі вачамі бачаць рэальную сітуацыю на рынку. Аднак у кадры гаварылі выключна людзі, якія паўтаралі фразу: „Всё нормально. Можно жить". Недахопы тавараў у крамах, паводле афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, з'яўляюцца вынікам нелегальнага экспарту ў Расію. Зімоўскі інфармаваў падрабязна, дзе, у якой вобласці і на якую суму міліцыя затрымала тавары, якія грамадзяне Беларусі везлі ў Федэрацыю братніх народаў. Высокія кары быццам бы абмежавалі гэты рух харчовых прадуктаў на ўсход і неўзабаве мае быць лепей.

У сапраўднасці эканамічная сітуацыя Беларусі набліжаецца да катастрофы. У гэтым годзе жніва паспяхова прайшло толькі ў тэлебачанні. Сабралі з палёў на 15 працэнтаў меншы плён чым у мінулых гадах. Каб пракарміць грамадства Беларусі, у краіне павінен быць запас 8,8 млн. тон збожжа. Ёсць толькі 7,5 млн. тон. Нядаўна прэзідэнт Лукашэнка падпісаў дамову з расійскім урадам на пастаўку пшаніцы на суму 200 млн. долараў, што мае быць формай заплаты за газ і нафту. Гэтая сума адпавядае вартасці 2,5 млн. тон збожжа, што зусім невыканальнае для беларускай дзяржавы. Таму прэзідэнт праз пасрэдніцтва тэлебачання дае загады адміністрацыі запоўніць прылаўкі ў крамах харчовымі прадуктамі, ствараюцца ўсялякія антыкрызісныя штабы, якія ўзначальваюць аднак не эканамісты, а палкоўнікі КДБ, робіцца шмат шуму ў рэжымных сродках масавай інфармацыі, што крызіс выкліканы рэфармаваннем расійскай гаспадаркі, а на тэрыторыі Беларусі мае толькі абмежаваны і часовы характар. Дзякуючы разумнай і разважлівай палітыцы прэзідэнта неўзабаве ўсё мае вярнуцца да папярэдняга дабрабыту. Грамадзянам трэба толькі цярпліва чакаць і давяраць начальніку дзяржавы. Асалодай іхняга жыцця маюць быць прамовы прэзідэнта і нашмат горшай якасці выступленні яго падначаленых. Усё гэта абазначае, што ўлады не бачаць магчымасці вырашэння праблем краіны эканамічнымі метадамі. „Рыначны сацыялізм" аказаўся не надта ўдалым эксперыментам, а кіраванне нават такой маленькай краінай як Беларусь адным чалавекам давяло да яе поўнай ізаляцыі.

Беларусь чакае вельмі цяжкая зіма. І можа так быць, што нават рэдактар Зімоўскі не асмеліцца маньякальна паўтараць: „Усё нармальна". **(ям)**

## Суддзі робяцца злоснымі падчас суда

Ужо другі тыдзень у Партызанскім раённым судзе Менска працягваюцца судовыя працэсы над удзельнікамі мітынгу і шэсці рабочых, што адбылося 5 лістапада ў сталіцы Беларусі. Чым больш часу праходзіць ад падзеі, тым больш жорсткія пакаранні выносіць суддзя Мікалай Трубнікаў, які разглядае ўсе справы ўдзельнікаў акцыі пратэсту незалежных рабочых прафсаюзаў.

Так 9 лістапада рабочаму Мікалаю Скрабцу і кіраўніку праваабарончага цэнтру „Вясна-96" Алесю Бяляцкаму, якія, на думку суддзі, парушылі парадак арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў і вулічных шэсцяў было вынесена папярэджанне. 16 лістапада рабочы МАЗа Мікалай Раманаў быў асуджаны на 3 дні арышту, а будаўнік Сяргей Мацкойць — на 6 дзён. 17 лістапада назіральнік „Вясны-96" Вадзім Канапацкі і актывіст БНФ Вячаслаў Сіўчык атрымалі ўжо па 15 сутак арышту. 19 лістапада павінен быў адбыцца суд над рэдактарам газеты „Рабочы" Віктарам Івашкевічам, але суддзя вырашыў прагледзець відэаматэрыялы з месца падзей і адклаў судовае пасяджэнне да другога снежня. 25 лістапада перад Мікалаем Трубнікавым прадстане дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Валеры Шчукін.

Усе асуджаныя да турэмнага зняволення адбываюць пакаранне ў міліцэйскім прыёмніку-размеркавальніку па вуліцы Акрэсціна ў Менску.

— Хутчэй за ўсё ўладам не спадабаліся лагодныя прысуды, якія былі вынесены першым абвінавачваемым, — каментуе падзеі кіраўнік „Вясны-96" Алесь Бяляцкі. — Таму наступных суддзя пачаў саджаць. Асабліва абсурдным было абвінавачванне Вадзіма Канапацкага. У таго былі дакументы, якія пацвярджалі, што ён з'яўляецца назіральнікам нашага цэнтра. Наша арганізацыя зарэгістравана, і мы дзейнічалі згодна са статутам, які прадугледжвае нагляд за выкананнем правоў чалавека падчас масавых мерапрыемстваў. Мікалай Трубнікаў прызнаў, што Вадзім быў назіральнікам, але ўсё роўна паслаў яго за краты.

**Зміцер Кісель**

Дырэкцыя, педсавет і вучні II Агульнаадукацыйнага ліцэя
з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы
смуткуюць з прычыны смерці дырэктара
Аляксандра ІВАНЮКА
і выказваюць шчырыя спачуванні Ягонай Сям'і.

Словы шчырага спачування Сям'і
Аляксандра ІВАНЮКА
з прычыны напаткаўшага Іх гора — смерці Мужа, Бацькі і Дзеда —
выказвае Беларускі саюз у РП.

16 лістапада 1998 года на 64 годзе жыцця неспадзявана памёр Аляксандр ІВАНЮК шматгадовы дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя, актыўны дзеяч Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.

Словыя шчырага спачування Сям'і Нябожчыка з прычыны напаткаўшага Іх гора выказваюць члены і супрацоўнікі Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея і Гайнаўскага аддзела БГКТ.

# Адышоў дырэктар белліцэя



— Словы не могуць выказаць таго, што адчуваюць людскія сэрцы, перад усім сэрцы вучняў, выхаванцаў і настаўнікаў, якія мелі шчасце працаваць з чалавекам так вялікага сэрца і душы, — гэтымі словамі развіталіся з дырэктарам Аляксандрам Іванюком людзі, якія яго добра ведалі.

16 лістапада памёр былы дырэктар Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, чалавек шчыра звязаны з беларускім асяродздем, вядомы не толькі ў Гайнаўцы. Вялікую частку свайго жыцця аддаў ён белліцэю, яго вучням і настаўнікам. Праца і турботы прынеслі плён. Многія яго выхаванцы працуюць зараз лекарамі, настаўнікамі, інжынерамі. Вялікім помнікам яго намаганняў з'яўляецца новы дыдактычны будынак белліцэя, пра пабудову якога ўвесь час клапаціўся. Жыхары Гайнаўкі будуць памятаць яго таксама як чалавека звязанага з пабудовай Беларускага музея і арганізатара шматлікіх беларускіх мерапрыемстваў. На Беласточчыне вядомы быў як актыўны дзеяч БГКТ.

Нарадзіўся Аляксандр Іванюк 28 кастрычніка 1935 года ў Сліваве каля Кленік у сялянскай сям'і. Падставовую школу закончыў у Кленіках, а пасля вучыўся ў Беларускім ліцэі ў Бельску-Падляшскім. У 1955 годзе здаў экзамены на атэстат сталасці і паступіў на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Закончыўшы ў 1962 годзе вышэйшую адукацыю пачаў працаваць настаўнікам у Падставовай школе н-р 2 у Гайнаўцы. Ад 1968 да 1971 года быў дырэктарам Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, а пазней працаваў настаўнікам беларускай мовы і візітатарам гэтага ж прадмета. У 1981 годзе зноў стаў дырэктарам Беларускага ліцэя і быў ім аж но да адыходу на пенсію ў 1991 годзе. Ад самага пачатку пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы быў членам Прэзідыума Грамадскага камітэта пабудовы, уключаўся ў арганізацыйную працу і, калі трэба было, працаваў фізічна. Ад 1963 да 1975 года быў старшынёю Гайнаўскага аддзела БГКТ, а шмат гадоў членам Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ. Яго артыкулы пра белліцэй і беларускае асяроддзе друкаваліся ў „Беларускім календары" і „Ніве". Увесь час пражываў з жонкай Лідзіяй і дачкой Альжбетай у Гайнаўцы. Калі пайшоў на пенсію, больш часу мог прысвяціць сям'і, а перад усім унучцы Аляксандры, якую вучыў размаўляць па-беларуску.

— Шчыра звязаны быў з беларускім асяроддзем, а перад усім з нашым белліцэем. Характэрнай рысай былі яго цёплыя і сардэчныя адносіны да вучняў і настаўнікаў. Калі адышоў на пенсію, заўсёды наведваў нашую школу і не адмаўляўся ў дапамозе. Назаўсёды астанецца ў нашай памяці, а жыхары Гайнаўкі будуць атаясамліваць ягонае прозвішча з нашым ліцэем, — успамінае дырэктар Яўген Сачко.

Заўсёды сярод нас будуць гучаць яго любімыя словы „калі ласка", „у вялікім скарачэнні", „наш беларускі ліцэй", — гаворыць намеснік дырэктара Аляксандр Лаўрыновіч.

— Быў вясёлым кампанейскім чалавекам. Вельмі любіў моладзь і клапаціўся за іх будучыню. Найважнейшымі ў школе былі для яго вучні, якіх не пакідаў, калі канчалі школу. Ахвотна прымаў выпускнікоў і сустракаўся са студэнтамі з Беларусі. Умеў арганізаваць працу настаўнікаў і ствараць вельмі добрую атмасферу працы. Але і многа часу адводзіў грамадскай дзейнасці, арганізаваў конкурсы, мерапрыемствы, сустрэчы, — кажа былы настаўнік Васіль Сакоўскі.

Развітацца з былым дырэктарам прыйшлі вучні розных школ, настаўнікі, сябры і знаёмыя, гайнаўцы.

**Аляксей Мароз**

# Папраўка

У артыкуле „Кіраваць будуць эканамісты" („Ніва" н-р 46 ад 15 лістапада 1998 г.), пішучы пра выбар Управы горада Гайнаўка, прапусціў я прозвішча аднаго з членаў нававыбранай Управы **Міраслава Ауксенціюка** з СЛД. У чытачоў і зацікаўленых асоб прашу прабачэння.

**Аляксей Мароз**

# Радныя могуць выпіць

Другая па чарзе сесія новаабранай Рады гміны Орля, якая праходзіла 4 лістапада 1998 г., цягнулася пяць з палавай гадзіны, хаця была прысвечана толькі выбарам войта і іншым арганізацыйным справам. У гэты дзень сабраліся ўсе васемнаццаць народных абраннікаў. Паслухаць сесію прыйшлі таксама жыхары Орлі, прыехала журналістка Беластоцкага радыё. Іх прысутнасць насцярожыла кіраўніцтва рады, а намеснік старшыні рады Вальдэмар Ёдла адразу запрапанаваў, каб праслухоўванне кандыдатаў на войта праходзіла за зачыненымі дзвярыма. Гэта выклікала абурэнне арлянцаў.

— Вы не маеце права рабіць такое. Цяпер дэмакратыя! Я ж падаткі плачу! — пратэставаў Яўген Балло.

— Я не маю абавязку апраўдоўвацца перад публікай, — адказаў старшыня рады Яўген Зінкевіч.

Атмасфера на зале пасяджэнняў пачынала напружацца. У абароне жыхароў Орлі выступіў радны Аляксандр Шыманскі, але большасць радных прагаласавала, каб госці пакінулі залу. Падняўся шум. Радны Сцяпан Гаворка з Кашалёў выгукнуў:

— А хто дазволіў запісваць пасяджэнне?

— Як гэта хто? Хай запісвае. То ж маем дэмакратычны лад! — пачулася з залы.

Старшыня рады настойваў, каб публіка пакінула залу, а таксама паставіў на галасаванне прапанову Сцяпана Гаворкі ці дазволіць запісваць сесію на плёнку. Большасць радных (8 за і 7 супраць) дазволіла карыстацца магнітафонамі і дыктафонамі. Пасля адчытання пратакола з папярэдняй сесіі кандыдаты на войта перадалі старшыні рады канверты са сваімі дакументамі і пакінулі залу. Жыхары Орлі з залы выйсці не хацелі.

— А можа рада выйдзе з залы і публіка праслухае кандыдатаў на войта? — голасна раздумваў радны Аляксандр Лукашук з Градалёў.

— Не рабіце жартаў, а толькі займайцеся сваімі справамі. Мы, публіка, будзем толькі слухаць, — не здаваўся Яўген Балло. — Мы не выйдзем з залы...

У такой сітуацыі частка радных на чале са старшынёю і ягоным намеснікам пачала пакідаць залу з намерам працягваць пасяджэнне ў іншым месцы. Гэта абурыла жыхароў Орлі, якіх сабралася больш за дваццаць чалавек. На калідоры стварыўся сціск. Пасля паўгадзіннага перапынку ўсе вярнуліся ў залу, а намеснік старшыні Вальдэмар Ёдла публічна зняў сваю папярэднюю прапанову.

Пачалася працэдура выбару войта. Пасля заслухання праграмаў паасобных кандыдатаў радныя ставілі ім пытанні. Найбольш пытанняў атрымаў папярэдні войт Міхал Іванчук. Пасля зачытання ягонай заявы аб некаральнасці радны Аляксандр Шыманскі ў сваю чаргу прадставіў даведку з Раённай пракуратуры, з якой вынікала, што ў 1991-1998 гадах Міхал Іванчук пяць разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за правапарушэнні ў нецвярозым стане.

— Пасяджэнні Гміннай управы канчаюцца прыняццем пастаноў, — гаварыў далей Аляксандр Шыманскі. — Ці ж важныя пастановы, якія прымаюцца п'яным чалавекам? Калі б вы мелі крыху гонару, — звярнуўся ён да былога войта, — то на сённяшняй сесіі папрасілі б у жыхароў Орлі прабачэння за ўчыненыя ім крыўды і адмовіліся б ад кандыдавання. А радных прашу, каб выбралі войтам нармальнага чалавека.

У адказ Міхал Іванчук растлумачыў, што тры правапарушэнні здарыліся яму ў Бельску, а толькі двойчы быў затрыманы ў Орлі. Радны Рэнгайла спытаў яшчэ:

— Ці войт, калі на год быў пазбаўлены вадзіцельскіх правоў, браў з гміннай касы грошы за тое, што даязджаў на сваёй машыне на работу?

— Так, бо я рызыкаваў і ездзіў на машыне без вадзіцельскіх правоў, — шчыра прызнаўся Міхал Іванчук.

Пасля былі іншыя пытанні наконт гмінных круцельстваў, а зашакіраваныя адказамі некаторыя жыхары Орлі сталі выходзіць з залы.

За пасаду войта змагаліся чатыры асобы: Ян Добаш (настаўнік), Аляксандр Орда (селянін), Міхал Іванчук (былы войт) і Тамара Русачык (метадыст беларускай мовы). У першым туры галасавання атрымалі яны наступныя колькасці галасоў: Я. Добаш — 6, А. Орда — 0, М. Іванчук — 9, Т. Русачык — 3. А ў другім туры перамог былы войт Міхал Іванчук, за якога прагаласавала 10 радных (Ян Добаш набраў 8 галасоў). Так вырашылі радныя, якіх выбрала грамадства.

На зале запанавала глыбокая цішыня. Не было воплескаў, ніхто не віншаваў войта, толькі Павел Галаўня з Кашалёў падышоў да войта і расцалаваў яго.

Рада вырашыла яшчэ, што Управу гміны састаўляць будуць сем чалавек, а войт запрапанаваў сваіх кандыдатаў. Пасля павіншаваў ён членаў Управы і сказаў: „Ну што ж, можам змяніць даўнюю традыцыю. Радныя, калі маюць такую ахвоту, могуць выпіць. А войт, наадварот, не! Толькі не ва Управе гміны". Затым старшыня закрыў пасяджэнне.

**Міхал Мінцэвіч**

# Войт контра радныя

10 лістапада г.г. адбылася ў Чаромсе чарговая сесія Рады гміны. На ёй выбіраліся намеснік войта, праўленне рады ды паасобныя камісіі. Намеснікам войта аднагалосна выбралі сакратара Гміннай управы Валянціну Кердалевіч. У час выбару праўлення дайшло да вострай палемікі паміж раднымі і войтам. Гэтыя першыя закідалі, што войт прадстаўляючы сваіх кандыдатаў парушае прынцыпы дэмакратыі.

— Гэта сакратары партыі так паступалі, прывозячы ў партфелях сваіх кандыдатаў, — канстатавалі радныя. — Нельга дапускаць да такіх жа памылак.

Завяршаючы кантраверсійную палеміку, войт заявіў:

— Не мы ў гэтым вінаваты, а законы, якія адобрыў Сейм і цяперашні ўрад. Паводле закону аб самаўрадах кандыдатаў у члены праўлення прадстаўляе старшыня (войт, значыцца). І ад гэтага нельга адступіць...

— Зараз трымаемся прынцыпу: хто выйграў выбары, таго ўлада!

Думку радных падзялілі прысутныя ў зале жыхары пасёлка. Аднак яны, як і радныя, нічога іншага не маглі зрабіць, як прыступіць да выбараў.

Пасля „цяжкага бою" ў склад праўлення ўвайшлі: Анатоль Анішчук, Янка Найбук, Юзэф Аляксюк і Здзіслаў Капаньскі. Падобная гісторыя паўтарылася ў час выбару рэвізійнай камісіі. Толькі пасля трэцяга галасавання ўдалося адобрыць калектыў з трох чалавек, які ўзначальваць будзе Анатоль Жук. У час дыскусіі радныя паставілі войту шмат пытанняў у форме інтэрпеляцый. У асноўным тычыліся яны пабудовы дарог, мадэрнізацыі вуліц ды разбудовы ачышчальні сцёкаў.

Радны Раман Туркевіч пацікавіўся, чаму ў Полаўцах (на пагранічным пераходзе) гміна не бярэ платы на „экалогію". Беларускія чыноўнікі на гэтым жа пераходзе збіраюць „цвёрдую" валюту (долары), наша гміна траціць такія каштоўныя для бюджэту залатоўкі.

— Усяму вінаваты спадар Кастоўскі, — заявіў войт, — які пачаў зваднічаць у сродках масавай інфармацыі. Зараз нельга так проста вярнуцца да збору экалагічнай аплаты, бо ніхто з адказных чыноўнікаў не хоча стаць казлом адпушчэння ў далейшых спрэчках на тэму законнасці гэтай дзейнасці. Радныя рашылі аднак звярнуцца да начальнікаў Пагранічнай стражы і мытнікаў з просьбай дапамагчы ім развязаць гэтую галаваломку.

У час дыскусіі ўзяў голас Мікалай Міхалюк, радны Гайнаўскага павета. Азнаёміў ён прысутных з вынікамі выбараў і структурай павятовых улад. Абяцаў, што пастараецца прысутнічаць на кожнай сесіі Рады гміны, знаёміць радных з асноўнымі справамі, якія будуць вырашацца на пасяджэннях у павеце.

Завяршаючы свой допіс, не магу пазбавіцца сумнай рэфлексіі наконт апошняга пасяджэння Рады гміны ў Чаромсе. Ужо ў пачатку дзейнасці новай Рады дайшло да вострых спрэчак паміж войтам і раднымі. Што ж будзе далей?

**Уладзімір Сідарук**

# Перамога жыдоўскай музыкі і бульбяной кішкі



*Трыумфальны паход бульбяной кішкі. Ззаду нямецкая меншасць.*

[1 ☞ працяг]
лы „Znad Łyny", „Сэсупэ" з Пуньска, клезмерскай капэлы з Сейн і песень Віктара Шалкевіча публіка дэгуставала асаблівасці нямецкай, літоўскай, украінскай, татарскай ды беларускай кухні.

Бульбяная кішка, здаецца, перамагла сваёй папулярнасцю ўсе іншыя стравы. На яе, як на каманду, рушылі найперш немцы, пазней славяне, балты, татары. Чаму немцы так любяць бульбяную кішку? — падумае чытач. Проста, некалькі гадзін раней нямецкую меншасць наведаў Віктар Шалкевіч. Пабачыўшы што і там рыхтуюцца да гасціны (варылі галярэту і рабілі бульбяны салат), сам пачаў распавядаць, расхвальваць нашу кішку. Рэклама зрабіла сваё.

Такі ж фурор выклікаў толькі літоўскі мурашнік (смажанае салёнае пячэнне з мёдам падобнае на хруст, уложанае ў стог як банкух), да якога быццам мурашкі дапалі дэгустатары. Стравы на стол даносілі маладыя дзяўчаты, апранутыя ва ўкраінскія народныя ўборы. Як аказалася, былі гэта пераапранутыя полькі.

— Сябры ўкраінцы папрасілі ў нас дапамогі, а нам таксама прыемна пазнаёміцца з іх кулінарнай культурай, — сказалі дзяўчаты.

Цудоўна іграла клезмерская капэла Сейненьскага тэатра, што дзейнічае пры фондзе „Пагранічча". Гэты музычны гурт завязаўся ў выніку пошукаў музычных тэм для спектакля „Дыбук" у 1996 годзе. Музыкі карыстаюцца такімі інструментамі як гармонік, скрыпка, кларнет, мандаліна, кантрабас, цымбалы і бубны.

— Адкуль набралі маладых хлопцаў? — пытаю ў Малгажаты Скорэк-Чыжэўскай, кіраўнічкі гурту.

— Мясцовыя яны, з Сейн, — чую ў адказ.

Сейненьская капэла — супраціўлялася сувальскай модзе, дзе нават лізэістам прыстоіць быць антысемітамі. Жыдоўскія матывы часта паяўляліся ў песнях і анекдотах Віктара Шалкевіча. Сам бард расказаў пра паходжанне свайго прозвішча. Шалкевіч, па-жыдоўску, значыць „Чартовіч". Зараз вядома чаму пра гродзенскага барда гавораць „д'ябальскі талент".

Дарэчы, жыдоўская музыка заваявала і ранейшыя фестывалі нацыянальных меншасцей у Гданьску. У мерапрыемстве ўдзельнічала многа беларусаў. Самую вялікую колькасць сустрэла я ў час дэгустацыі нацыянальных страў. Прывезеная мною „Ніва" разышлася як згаданая бульбяная кішка.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



*Гданьскія беларусы-эмігранты (злева) Эдмунд Стаповіч, Марк Стаповіч, Лена Глагоўская і Анна Куклік.*

# Старыя міфы ў новым выданні

На пачатку гэтага года ў Кракаве выйшла кніжка вядомага сацыёлага прафесара Уладзіміра Паўлючука *Ukraina. Polityka i mistyka**. Кніжка ў асноўным прадстаўляе фактары, якія паўплывалі на працэс развіцця ўкраінскай нацыянальнай свядомасці.

Прафесар Паўлючук адзін з раздзелаў гэтай кніжкі прысвяціў таксама фарміраванню беларускай нацыянальнай свядомасці. На жаль, аўтар паўтарыў вельмі старыя тэзісы, прапагандаваныя яшчэ на пачатку XX стагоддзя расійскімі нацыяналістычнымі газетамі, якія выдаваліся ў Мінску і Вільні, напрыклад, „Минским словом" ці „Северо-Западной жизнью". Паводле гэтых выданняў беларускую нацыянальную ідэю прыдумала каталіцкая шляхта, якая была пад уплывам польскай культуры (с. 96). Гэта праўда, што Зан, Чачот, Баршчэўскі, Рыпінскі, Агінскі цікавіліся беларускім фальклорам, але ніколі яны не фарміравалі беларускай нацыянальнай ідэалогіі. „Do rewolucji, — піша аўтар, — prawie wszyscy twórcy literatury białoruskiej pochodzili ze środowisk katolickich, najczęściej ziemiańskich. W tej sytuacji zrozumiałe, że lud białoruski obdarza swych wieszczów narodowych mniej czułym sentymentem niż lud ukraiński i mniej jest podatny na ideę przeciwstawienia białoruskiej kultury „ruskości". Co gorsza, ten brak należnego szacunku [między ludem] a przywódcami narodu jest na Białorusi przez przywódców narodowych odwzajemniany". Гэта гучыць як цытата з „Северо-Западной жизни".

Найбольш уплывовым ідэолагам у другой палове XIX стагоддзя на Беларусі быў Міхал Каяловіч, пра якога чамусьці зрэдку ўспамінала расійская, а пасля савецкая прапаганда. Каяловіч быў стваральнікам ідэі заходнерусізму, паводле якой рускі народ ствараюць тры плямёны — велікарусы (рускія), маларусы (украінцы) і заходнерусы (беларусы). Дамагаўся ён беларускай мовы ў дзяржаўных установах на Беларусі, школьніцтве, прапанаваў — у сямідзесятых гадах — радыкальную зямельную рэформу, якой мэтай было б пазбавіць маёмасці каталікоў, якіх усіх лічыў палякамі. Разважаў нават магчымасць іх прымусовага перасялення. Заходнерусы не прымалі да ведама існавання нацыянальнай катэгорыі беларусаў-каталікоў. Пару гадоў пасля гэтае ж асяроддзе праваслаўных-заходнерусаў акрэсліла сваю пазіцыю ў адносінах да велікарусаў. У 1881-1884 гадах выдалі яны некалькі адозваў да жыхароў Беларусі, якіх загалоўкі гаварылі самі за сябе: „Да беларускай моладзі", „Да беларускай інтэлігенцыі", „Да сучасных беларусаў". У адозвах пераконвалі яны адрасатаў, што беларускі народ мае свае інтарэсы, сваю культуру, мову, гістарычную спадчыну, менталітэт жыхароў, што павінен ён быць свабодны „ад чужых паноў і манархаў".

У 1884 годзе праваслаўныя рэдактары часопіса „Гоман" упершыню акрэслілі беларускія палітычныя і нацыянальныя мэты. Прапанавалі яны палітычную і культурную аўтаномію для беларусаў у складзе федэратыўнай расійскай дзяржаўнасці. Вядома як маглі прыняць гэтую прапанову расійскія нацыяналісты, але ў кантэксце разважанняў Уладзіміра Паўлючука важнай можа быць пазіцыя, якую занялі ў гэтай справе сацыялісты з „Народнай волі". Беларускае патрабаванне аўтаноміі акрэслілі яны як праяву нацыяналізму, інспіраваную палякамі праваслаўнымі, ... каталіцкае асяроддзе, якому Паўлючук дае манаполію на беларускую ідэю, пры канцы XIX стагоддзя стварыла падставы беларускага сацыялістычнага руху і ў першую чаргу выступіла ў абароне, праваслаўнага ў сваёй масе, сялянства. У ніякім выпадку Беларуская рэвалюцыйная грамада, здамінаваная каталікамі, не прадстаўляла памешчыцкіх інтарэсаў. У сацыялістычным беларускім руху зліліся, дарэчы, ідэі так праваслаўных, як і каталіцкіх рамантыкаў. „Нашу ніву" рэдагавалі праваслаўны Якуб Колас і католік Янка Купала.

„Ukraińska mistyka narodowa wypływa ze źródeł religijnych chrześcijaństwa wschodniego, — піша Паўлючук. — Białoruska mistyka narodowa wyrasta z innych źródeł religijnych i innego ethosu. Religią jest katolicyzm. (...) Mitologia narodowa Białorusi dotyczy postaci, które są całkiem „na zewnątrz" życia i świata ludu. Taką postacią w przeszłości jest Kastuś Kalinouski, a dziś Zianon Paźniak" (с. 98). Паўлючук рашуча даказвае, што Кастуся Каліноўскага на Беларусі лічылі чужым, па прычыне яго нагага каталіцкага веравызнання. Праблема ў тым, што хаця ён не меў ніякага дачынення да беларускай нацыянальнай ідэі, але нават бальшавікі лічылі яго сваім, героем класавай барацьбы беларускіх сялян супраць памешчыкаў.

У адносінах да Пазьняка аўтар кніжкі ідзе следам лукашэнкаўскай прапаганды, абвінавачвае яго ў пагардлівым стаўленні да беларускага народу, перакручвае яго словы, прыпісвае думкі, з якімі Пазьняк не мае нічога супольнага. Лідэра беларускай дэмакратычнай апазіцыі робіць нейкім імбецылам. „Wygląda na to, — піша, — że w przyszłym demokratycznym państwie Zianona Paźniaka zakazane będzie — jako pochodzące od diabła — nie tylko zainteresowanie latającymi talerzami, polityką, ale także... erotyką i seksem" (с. 104). Такі стыль можа і быў бы ўспрымальны ў г.зв. „нашых" польскамоўных часопісах, але ў навуковай працы з'яўляецца чымсьці асаблівым.

Аўтар не скрывае сваіх сімпатыяў да канкурэнцыйнага лагера, дзе ўсё лагічнае і рацыянальнае. „Problemów takich [jak Пазьняк — Я. М.] nie ma Łukaszenka, jego elektorat bowiem nie ma żadnej tendencji do identyfikowania się z polskością, czy tym bardziej do rozpłynięcia się w polskości. Jest to owa prawosławna większość białoruska, która cywilizacyjnie z istoty niejako jest ruska. Łukaszenka jest przywódcą ludu białoruskiego pojmowanego jako realna statystyczna zbiorowość, przejawiająca swą wolę w procedurach demokratycznych" (с. 103). Калі ўлічыць факт, што Лукашэнку на рэферэндумах падтрымлівае 80 працэнтаў каталікоў, а падчас прэзідэнцкіх выбараў на Пазьняка ці Шушкевіча галасавала пару сотняў тысяч праваслаўных, рэальны стан з'яўляецца больш складаным, чым той прадстаўлены прафесарам Паўлючуком.

Не ведаю, адкуль узяліся крыніцы такога эмацыянальнага стаўлення прафесара да беларускай нацыянальнай ідэі, што пішучы кніжку пра Украіну і ўкраінцаў вырашыў, без выразнай прычыны, не маючы прытым ніякіх аргументаў, даказаць, што „idea narodu białoruskiego rodzi się z duchowości i doświadczeń historycznych polsko-białoruskiego ziemiaństwa i jest wobec ludu białoruskiego fenomenem zewnętrznym" (с. 104-105). Што астаецца ўнутраным феноменам беларускага люду — паводле Уладзіміра Паўлючука — нялёгка здагадацца.

**Яўген Міранові̇ч**

*W. Pawluczuk, *Ukraina. Polityka i mistyka*, Kraków 1998, ss. 264.

# Прыносіў людзям радасць


Юрка Налівайка каля помніка Перамогі ў Рыме ў 1945 годзе.

*Вы шуміце, шуміце нада мною бярозы,*
*Калышыце, люляйце свой напеў векавы,*
*А я лягу-прылягу край гасцінца старога,*
*На духмяным пракосе недаспелай травы.*

Любіў гэту песню наш незабыўны спявак Юрка Налівайка. Памёр ён 10 кастрычніка гэтага года. Непадалёк ад яго магілы на Камунальным могільніку, у кватэры салдат з-пад Монтэ-Касіна, так як у гэтай песні, шумяць бярозы і іншыя дрэвы і быццам пяюць:

*А я лягу прылягу, край гасцінца старога,*
*Я здарожыўся трохі, я хвілінку пасплю.*

На жаль, спіць ён ужо вечным сном, аставіўшы ў горы жонку Ніну, трое дарослых дзяцей і дзявяць унукаў. Смуткуюць яго блізкія і знаёмыя, што не ўбачаць яго больш на сцэне, не пагавораць з ім і не пачуюць яго смешных анекдотаў.

Юрка Налівайка нарадзіўся 24 мая 1925 года ў Гарадку на Беласточчыне. Там ён хадзіў у пачатковую школу. Маці яго была настаўніцай, а бацька працаваў у тартаку. Памёр ён, калі Юрку было 9 гадоў. Маці другі раз выйшла замуж за войта мясцовай гміны. У 1940 годзе іх сям'ю вывезлі саветы, пачаткова войта невядома куды, а пазней Юрку з братам і маці ў Казахстан. Працавалі яны ў калгасе, затым у саўгасе. Юрка хутка стаў трактарыстам, а потым працаваў на чыгунцы.

Калі ў СССР пачало арганізавацца войска польскае, Юрка з маці прыступілі да яго. 17-гадовы юнак стаў салдатам, а маці пайшла працаваць у вайсковую кухню.

Родны брат Юркі, Віктар, разам з цэлым 10 класам, добраахвотнікам пайшоў у савецкую армію, каб бараніць Саюз ад нямецкіх захопнікаў. Загінуў ён пад Сталінградам. Успамінаючы брата, Юрка з хваляваннем спяваў:

*Поклонимся мы тем годам,*
*Тем славным командирам и бойцам,*
*И маршалам страны и рядовым,*
*Поклонимся и мёртвым, и живым.*

У 1942 годзе летам польскае войска пад камандаваннем генерала Андэрса перайшло з СССР у Іран, а затым у краіны Блізкага Усходу. Вядома, дзе войска, там і песня, а дзе была песня, там быў і Юрка Налівайка. З войскам Юрка апынуўся ў Італіі. Змагаўся пад Монтэ-Касіна, а пазней ваяваў на адрыятычным адрэзку фронта. У баях загінула многа салдат, але Юрку Налівайку Бог абараняў ад куль, выходзіў ён з бою жывым, але з цяжкімі перажываннямі, з болем у сэрцы, таму што сваімі вачыма бачыў як гінуць маладыя людзі, бачыў ён прадсмертныя мукі і пакуты акалечаных, бачыў смерць. Гэтых нешчаслівцаў, незалежна ці загінулі яны на ўсходнім ці на заходнім франтах, Юрка славіў прыгожымі песнямі. У яго рэпертуары былі „Чэрвонэ макі", „Помніць Вена", „Незабыўны марш", „Хотят ли русские войны", „Я люблю тебя, жизнь".

Пасля вайны Юрка Налівайка закончыў у Італіі падафіцэрскую зенітную школу. Там узбагаціў свой песенны рэпертуар італьянскімі песнямі, а пасля павялічыў яго англійскімі, калі ў 1946 годзе пераехаў у Вялікабрытанію.

У 1948 годзе, аставіўшы працу медсястры ў шпіталі ў Ліване, прыехала да яго маці і ў кастрычніку гэтага ж года абое вярнуліся ў Гарадок, свой родны мілы кут. З гэтым фактам быццам карэспандуе песня „Малінавы звон", якую Юрка Налівайка спяваў разам са сваім шматгадовым акампаніятарам Сцяпанам Копам:

*Малиновый звон на заре,*
*Скажи моей милой земле,*
*Что я в неё с детства влюблён,*
*Как в этот малиновый звон.*

На радзіме Юрка Налівайка пачаў працаваць у будаўнічым прадпрыемстве ў Беластоку і стаў завочна вучыцца ў тэхнікуме. Пасля ён 2 гады працаваў кіраўніком варштатаў у Будаўнічай школе ў Гарадку. 13 гадоў быў кіраўніком сталярні, 5 гадоў кіраўніком будовы ў мясцовым надлясніцтве, наступных 5 гадоў — намеснікам прэзаса ГСу і 10 гадоў, аж да пенсіі — работнікам на трыкатажнай фабрыцы „Каро" ў Гарадку. Акрамя таго займаўся ён сельскай гаспадаркай, спецыялізаваўся ў авечкагадоўлі.

Увесь свой працоўны жыццёвы шлях Юрка Налівайка быццам крочыў пад ручку з песняй і спяшаючыся да сваёй любай дзяўчыны Ніны Бонэрт, і адпачываючы, і на сямейна-сваяцкіх урачыстасцях, і на рознага роду вечарынах, і на спатканнях ветэранскага гуртка, які ён узначальваў, і ўсюды, дзе было гэта магчыма.

Прымаў ён удзел у конкурсах савецкай песні, заўсёды быў у найлепшых. Удзельнічаў у конкурсах песні Уладзіміра Высоцкага, якія арганізаваў Макатоўскі дом культуры ў Варшаве, дзе двойчы быў адзначаны, а ў 1986 годзе атрымаў высокую ўзнагароду рэдакцыі газеты „Штандар млодых". Любіў рэпертуар Акуджавы, асабліва песню „Не верце пяхоце".

Юрка Налівайка апрача свайго песеннага хобі займаўся спортам. Ён быў адным з першых на Беласточчыне заснавальнікаў валейбольнага гуртка ў Гарадку. Быў яго дзеячам, іграком і трэнерам. Выконваў розныя функцыі ў мясцовай і павятовай радах ЛЗС у Беластоку. Гарадоцкая спартыўная каманда была адной з лепшых на Беласточчыне ў сваёй групе, займала высокія месцы ў спартыўных спаборніцтвах. І тады яшчэ лягчэй яму спявалася.

У бесперапыннай працоўнай занятасці, спалучанай з песняй даплылі гады да пенсіі і з сумам гаварыў Юрка, што трэба спяшацца жыць і яшчэ больш спяваць, пакуль яшчэ хапае сілы. І Юрка спяваў:

*Жаль, у моря нету брода,*
*А у ветра нет следа,*
*Жаль, что годы-скороходы*
*Быстротечны, как вода.*

Калі Юрка перайшоў на пенсію, далучыўся да мясцовага Гарадоцкага хору, у якім спявала яго жонка. Восем гадоў таму перасяліўся ён з жонкай у Беласток і тут спяваў у Беластоцкім хоры Беларускага таварыства, і, калі трэба было, таксама і ў Гарадоцкім хоры. Заўсёды яго можна было пачуць на беларускіх народных фэстах, на аглядах беларускай песні і фестывалях, на розных вечарынах і ўрачыстасцях. Яго чатырохмоўны рэпертуар — рускі, украінскі, польскі і перш за ўсё беларускі цёпла ўспрымаўся публікай. Шкада, што няма касеты з рэпертуарам Юркі Налівайкі, што ніхто не падумаў аб гэтым. Юрка Налівайка ў суправаджэнні хору выконваў 38 песень. А ведаў іх сотні. Напрыклад, прадстаўнікі вайсковых улад звярталіся да яго, каб запісаць песні, якія спяваліся войскам Андэрса.

Юрка Налівайка любіў людзей, сям'ю і асабліва сваю маму. Помню, як на фестывалі беларускай песні Юрка заявіў аб тым, што з нагоды яе 95 гадавіны прысвячае ёй песню „Калыханка мамы", у якой спяваецца:

*Быць разам выпадае нам так мала,*
*Забудзь трывогу вечную сваю,*
*Прыляж, мая патомленая мама,*
*Як некалі ты мне — табе спяю.*

Юрка выступаў апошнім часам у кабарэ сеніёраў „Шпілька", які дзейнічае пры Ваяводскім асяродку анімацыі культуры. Нават калі стаў хварэць, прыходзіў да „Шпілек" на рэпетыцыі, часам выступаў. Ён хацеў жыць і спяваць людзям і цешыцца з імі іх радасцю.

*І з радасці аб радасці жывых,*
*Я думаю і ў той жа час сумую*
*Па соснах, па сябрах баявых,*
*Па ўсіх, хто роднай песні больш не чуе.*

На пахаванні з узрушальнай развітальнай прамовай выступіў Здзіслаў Лейвода, былы працаўнік Беластоцкай куратарыі, падкрэсліваючы між іншымі і яго выхаваўчую дзейнасць у Будаўнічай школе ў Гарадку, і ветэранскае мінулае. Быў ён кавалерам Афіцэрскага крыжа Ордэна Адраджэння Польшчы і ваенных польскіх, італьянскіх ды брытанскіх медалёў. Спі спакойна, Юрка, хай пухам будзе Табе зямля. А вы, бярозы і сосны, шуміце і люляйце нашага таленавітага песняра.

**Міхась Хмялеўскі**



Юрка Налівайка на аглядзе беларускай песні ў 1998 годзе. Акампаніятар — Сцяпан Копа.

# Новая касета

Калектыў „Зпічка", які працуе пры Гайнаўскім беларускім ліцэі, выпусціў сваю першую аўдыёкасету „Шчаслівы вальсок". „Знічку" састаўляюць: настаўніца музыкі Бажэна Ляўчук (апякунка калектыву), вучні Марта Грэдаль, Альжбета Трашчотка, Ілона Карпюк, Марцін Харкевіч (гітара) і Ева Лукша (клавішныя інструменты). На касеце запісаны, між іншым, аднайменны „Шчаслівы вальсок", „Пакахала беларуса", „Знічка", „Тамара".

Касета запісвалася 2 чэрвеня г.г. у студыі „Рэмбрант" Беластоцкага радыё. Запіс — як сказала Бажэна Ляўчук — гэта ўзнагарода за другое месца, якое „Знічка" заваявала на фестывалі „Беларуская песня '98". Тады калектыў атрымаў таксама кубак ад былога прэм'ер-міністра Уладзімежа Цімашэвіча.

Публічная прэзентацыя касеты адбылася 15 лістапада ў Гайнаўскім доме культуры ў рамках паказу мастацкіх дасягненняў белліцэя. Спонсарам аўдыёкасеты выступіла Прадпрыемства будаўнічай керамікі з Ляўкова. Касету можна купіць у сакратарыяце ліцэя за адзіныя сем злотых.

**Славамір Кулік**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Дзяўчаты з ПШ у Чыжах на ўроку пластыкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Не буду пісаць вершаў

*(фельетон)*

Я ішоў на Бардаўскую восень не толькі таму, што хацеў паслухаць песні, але і каб даць адказ на пытанне, якое паставіў сабе некалькі месяцаў раней: ці ў мяне паэтычная душа?

Падумаў я, што калі песні бардаў мне спадабаюцца, гэта будзе сведчыць, што я ў глыбіні душы паэт і што магу пісаць вершы. У БДК з'явілася многа людзей. Прыйшло мне ў галаву, што можа хтосьці з іх мае такую праблему, як і я.

Пачаліся выступленні бардаў. Першыя некалькі хвілін я няўважліва слухаў таму, што быў заняты размовай з сябрам. Пасля гутаркі я ўжо слухаў. На жаль, першы бард ужо закончыў свой канцэрт. Потым на сцэну ўвайшла другая асоба. Але ў гэтай хвіліне знайшлі мы з сябрам цікавую тэму. Нашы погляды былі розныя і амаль не дайшло між намі да спрэчкі. На шчасце мы супакоіліся. Калі наша ўвага засяродзілася на сцэне, быў там ужо наступны бард. Я пачаў уважліва слухаць словы яго песні. Аднак пасля некалькіх сказаў я згубіўся і не ведаў, аб чым гаворыцца ў творы. Ізноў спрабаваў слухаць песняра. На жаль, і гэтым разам пасля некалькіх радкоў я не ведаў, аб чым спявае бард. Паглядзеў я на залу. Усе ўважліва слухалі выканаўцу. З іх твараў можна было вычытаць, што яны не толькі разумеюць, што спявае гэты бард, але нават гэта ім падабаецца. Мае сябры таксама мелі такі выгляд. У галаву прыйшла мне думка: „Ці я сапраўды такі дурны, што не разумею гэтай песні?"

Аднак пасля некалькіх хвілін задумы дайшоў я да вываду, што нават калі не разумею твора, трэба рабіць разумны выгляд (такі як усе), каб не палічылі цябе ідыётам.

У час наступных выступленняў мая міна не змянялася нават на хвіліну. На шчасце, дачакаўся я перапынку.

Пасля Бардаўскай восені я падумаў, што не буду пісаць вершаў. Папершае; не маю душы паэта, а па-другое таму, што не хачу мучыць „уважлівых" слухачоў, якія будуць пакутаваць слухаючы і чытаючы мае вершы.

**Міхась СЦЕПАНЮК**




*Мал. Монікі ЯКІМЮК з ПШ у Чыжах.*

## Каханне і чары

Міхась быў скромным, ціхім хлопцам. Ён не меў ні брата, ні сястры. У школе сядзеў за партай адзін. Бацькі яго былі бедныя. Многа часу яны праводзілі на полі гаспадара вёскі.

Аднаго разу хлопец прыйшоў са школы, з'еў зацірку і пайшоў на шпацыр. Ішоў ён лугавой дарогай і ўбачыў агарод. Увайшоў туды і ўбачыў цудоўную кветку. Падышоў да яе, а яна прамовіла людскім голасам:

— Калі ты мяне сарвеш, то будзеш да канца жыцця пракляты!

А Міхась на тое:

— Я не буду цябе рваць, я на цябе толькі пагляджу.

— Я не бачыла яшчэ такога чалавека, як ты. Мяне завуць Клеапатра, а цябе як?

— Міхась.

— Ты, Міхась, мне падабаешся. Ці не хацеў бы ты стаць маім сябрам? — запытала кветка.

— Так, я да цябе буду часта прыходзіць, але цяпер мушу ісці, — сказаў Міхась і пайшоў.

Хлопец сказаў пра кветку бацькам, але яны не дазволілі сустракацца з ёю. Міхась пасмутнеў. Ён ніколі не меў сяброўкі. Рашыў, што калі надыдзе змрок ён уцячэ да Клеапатры. Так і зрабіў. Але калі ён увайшоў на падворак, убачыў не кветку, а прыгожую дзяўчыну. Калі яна яго пабачыла, засланілася. Міхась падышоў да яе, а яна прамовіла:

— Бачу, што ты вельмі здзіўлены. Не бойся. Я перамяняюся ноччу ў дзяўчыну. Мяне зачараваў вельмі нядобры чалавек. Я буду заўсёды кветкай, пакуль мяне не пацалуе і не возьме за жонку каханы хлопец.

Міхась нічога не гаварыў, толькі глядзеў на яе. Нарэшце сказаў:

— Я цябе вазьму за жонку.

Падышоў да яе, пацалаваў і ўсё раптам павесялела.

Яны доўга жылі. Бацькі былі таксама задаволены. Нядобры чалавек памёр.

**Кацярына МАНАХОВІЧ
і Магда КРЫШПІНЮК,
ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

## Пералётныя птушкі

Большасць нашых птушак восенню адлятае ў месцы сваіх зімовак. Гэтыя штогадовыя вандроўкі аднасяцца да велічных і не менш загадкавых з'яў прыроды. Адны быццам адступаюць перад марозам у заходнім або паўднёвым напрамку, але застаюцца на еўрапейскім кантыненце, іншыя з перапынкамі ляцяць у далёкую Афрыку або Азію.

Найбольш блізкія чалавеку буслы. Яны ў жніўні, каля Успення, гуртуюцца на рачных далінах, начуюць заўсёды на тых самых сухіх вязах, ліпах ці бярозах, шукаюць яды, а на дзве гадзіны да заходу адлятаюць у яго напрамку на чарговую кароткую стаянку. У кастрычніку залятаюць на ўзбярэжжа Біскайскага заліва, іншыя — Міжземнага мора і адтуль адлятаюць у Конга ці Эфіёпію. Вяртаюцца ў палове красавіка. Жураўлі і дзікія гусі з недаступных месц гнездавання адлятаюць касякамі па 30-50 штук таксама ў заходнім напрамку перад заходам сонца. На жыроўку жураўлі затрымліваюцца на пасевах азімай пшаніцы, там і начуюць, а гусі — на забалочаных далінах рэк Буга, Нарвы, Бебжы.

Зязюлі і ястрабы адлятаюць у Заходнюю Еўропу ўадзіночку, а шпакі збіраюцца ў жніўні ў чародкі і толькі ў кастрычніку бязладна адлятаюць на захад — у Германію, затым у Францыю, але Еўропы не пакідаюць. У сакавіку зноў набліжаюцца па рачных далінах да папярэдніх месц гнездавання.

Ластаўкі ў жніўні збіраюцца на электраправодах, адлятаюць з пачатку ў Заходнюю Еўропу, а затым — у Афрыку. Вяртаюцца ў маі. Невялікімі чародкамі адлятаюць іншыя насякомаедныя: пеначкі, мухалоўкі, чыжыкі, а прылятаюць яны незаўважальна ў маі.

Найдаўжэй застаюцца мясцовыя і пералётныя дразды, якія ўтвараюць чародкі ў 30-100 штук і нападаюць на сады, вінаграднікі, лясныя пладовыя дрэвы і адлятаюць толькі ў лістападзе, а ў сакавіку ізноў вяртаюцца. Перастаюць адлятаць дзікія качкі. На зімаванне яны затрымліваюцца на незамярзаючых адрэзках рэк і азёраў, а ранняй вясной адлятаюць на месцы гнездавання.

**Аліна СІРОЦКАЯ,
ПШ у Чыжах**

* * *

Вяне свет
Падаюць апошнія пялёсткі жыцця
У бяскрэснае мора адплываюць сны і мары
Вецер вывейвае шчасце
Дождж змывае кроў
А Ён прыходзіць як ноч
Таямніча, ціха...
І просіць кахання
Свет стаіць у месцы
А Ён ідзе праз маё сэрца да душы
Я зняволена ў малой прасторы
Асуджана на самотнасць
Высмоктваю апошнія кроплі жыцця...
І ўжо ніхто не можа мне дапамагчы

**Мажэна М.**

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# Як паны хадзілі паганага цмока выяваць

Нарэшце паны скемілі, шо ім трэба вучыцца якомусь рамяству, іначай гамон, час настаў такі. Спачатку не дужа ў іх атрымоўвалася. Пан Заблоцкі паспрабаваў сані майстраваць. Але не пашэнціла яму. Як пачаў полаз гнуць, дык жардзіна саскочыла ды — бенц! — проста пану ў лабаціну. Ох і папалаяўся ж пан Заблоцкі!

Пан Кубліцкі надумаўся гаршкі ды міскі ляпіць на ганчарным коле. Але й тут непярэлійкі — першаму ж пакупніку не ўладзіў, той заззлаваў, што гаршчок дзіравы дый разбіў пасудзіну аб пана Кубліцкага галаву. Хацеў пан Кубліцкі на яго скаргу пісаць, ды не знайшоў грошай, каб падмазаць шаноўны суд.

Добра, што Ахрэм Верацённік нараіў панам рэпу сеяць. Выгодная, кажа, рэч. Балазе ў паноў яшчэ зямліцы валокі з паўтары засталося. А насенне ў бабкі Парэскі выпрасілі. Тут ужо ім больш пашчасціла — урадзіла рэпа.

Значыцца так. Жывуць сабе паны, сеюць рэпу, у Смургоні завозяць на продаж, нішто сабе жывуць. Пан Кубліцкі нават падумвае пра тое, каб ажаніцца.

Тым часам у княстве творацца жахлівыя рэчы. Памятаеце тое куранятка ад Куры Шчабятуры, што паны наседжвалі? Яно часу дарма не траціць: адгадавала сабе яшчэ дзве галавы, словам, змянілася ў істага Цмока. А калі я Цмок, кажа яно самое сабе, дык годзе мне цягаць адно сабак ды парсюкоў. Дый пачынае гэтае страшыдла чыніць несусветны грандзёж ды гвалт. Глытае паненак, прытым переважна прыгожанькіх. Яшчэ й пераборлівае, ліха на яго. Паны чуюць гэтакую навіну ды пачынаюць чухаць патыліцы. Асабліва непакоіцца пан Кубліцкі:

— Дык што ж гэта робіцца, панове? Гэта ж вельмі нядобра! Гэта ж ён можа ўсіх нявест перапахаць!

На гэта пан Заблоцкі змрочна адказвае:

— Што нявесты? Не бяды, застанецца й пану Кубліцкаму якая-небудзь замухрышка. Але баюся, каб жа гэтая пачвара не ўбілася ў рэпу...

Сказаў — як сурочыў, бо ўжо назаўтра Ахрэм Верацённік, ідучы каля панскага агарода, угледзеў, што паміж градаў качаецца штосьці цёмнае, лускаватае, вялікае, бы хлеў. Знай топча сабе рэпу, закідае ў тры свае глоткі, як у сячкарні. Паненкі яму прыеліся, ці што? Ахрэм Верацённік кідаецца да паноў з гэтай прыкрай навіною.

— Ваша благароддзе, ходзіць Цмок у агародзе!

Пан Заблоцкі — за качаргу ды за дзверы, пан Кубліцкі следам за ім. Але Цмок ужо нажэрся, залопаў скрыдламі, свіснуў у тры глоткі ды ўзляцеў у падхмар'е, чорны, слізкі, бы велізарная крылатая жаба.

Паны камянеюць ад жаху, тады бачаць здратаваныя грады, паабгрызаную рэпу. „Гэта, няйначай, ізноў давядзецца зубы на паліцу класці!" — мільгае ў галаве пана Заблоцкага. Тады ён ад вялікай роспачы пачынае клясці паганага Цмока, ды зусім не шляхоцкімі словамі:

— Раскірэтка чортава, недавярак гэты! Рэпу павырываў, каб яму зубы павырывала! Зжэр усю чыста, каб ён не выдыхаў, каб яна табе калом у горле стала, каб яна табе бокам вылезла, каб жыватом качаўся! Ані дзялянкі не пакінуў, усю з'еў, каб табе моль галаву аб'ела, каб цябе свінні елі, каб ты зямлю грыз! Нажэрся ды паляцеў, каб над табою крумкачы лёталі. Яшчэ й свішча, каб ты кроўю свіснуў, каб праз твае вушы вецер свістаў!

Але што таму нелюдзю хай сабе й страшныя праклёны? Рабіць няма чаго, трэба ісці выяваць Цмока паганага, іначай рады няма. Не будзе ані рэпы, ані нявест. Пан Заблоцкі бярэ сваю качаргу, пан Кубліцкі — чапялу, ды выпраўляюцца ў дарогу.

Вось на калінавым мосце, што праз рэчку Парэчку, ляжыць нейкая завала, бы капа гною, ды храпе. Загарадзіла, бач, дарогу.

— Прэч з дарогі! — халярує пан Заблоцкі. — Не бачыш — шляхта йдзе з лютым Цмокам змагацца.

Тут гара варушыцца, выцягвае тры шыі, лупае шасцю вачыма, і паны цямяць, што перад імі сам Цмок. Уга, якое страшыдла. Сядзіць, наладаванае рэпаю, дый думае, дзе б якой паненкай закусіць. От жа мярзотнік. Ну, пачакай, зараз шляхта дасць табе дыхту, даджджэшся, страшнік.

*(працяг будзе)*

**Пятро Васючэнка**

# З хронікі бельскіх піраманаў

*(фельетон)*

І будзе ўсё па-старому.

Сёння мая настаўніца чарговы ўжо раз наладзіла мне сюрпрыз у выглядзе ацэнкі (зразумела, з гэтых менш пазітыўных).

З гэтай нагоды ў рамках „свята" я вырашыла крыху павучыцца да заўтрашняй кантрольнай. З увагі аднак на тое, што мая сям'я гэта толькі і выключна індывідуальнасці (вядома, што не да канца нармальныя), я сабралася ў „эміграцыю" на час вучобы. Сапраўды цяжка жыць у такой хаце. Асабліва, калі табе трэба зубрыць, а тваім толькі што прадстаўленым сямейнікам сабралася на выказванне сваіх музычных талентаў. Бацькі, як заўсёды, бездакорныя. Аднак сястрычкі... Старэйшая задумала менавіта сёння выступіць у ролі Агнешкі Хылінскай (з увагі на тое, што інакш не ўмее апаганіць песню „Ona" сваім выццём), а малодшая захацела стаць другім Шапенам. Вядома, пачала брынкаць на раялі. Ну, добра (маладое — дурное!), аднак не пад сілу было для мяне абвяшчэнне, што сёння наведаюць нас цёткі, якія разам з маёй мамай могуць смяяцца без перапынку круглую гадзіну. Я, як вельмі ўражлівая асоба, не магу працаваць у такіх умовах і была вымушана эміграваць з „Роднай Ралянды" да дзядуляў. У іх заўсёды-заўсёды ціхенька ды спакойна. Бабуля падрыхтуе нешта добрае паесці, а дзядуля раскажа некалькі *даўціпаў*.

... Цішыня, спакой, цішыня... Хто б падумаў!

Калі ўжо павесялілася і паела, тады перамагла ляноту і засела да ўрокаў. Кантрольная праца заўтра ж.

Але бельскія піраманы не драмалі. Невядома адкуль даведаліся, што я хачу спакойна павучыцца. Яны рашылі адцягнуць мяне ад урокаў і падклалі агонь у недалёкім сметніку.

Калі я падбегла да акна, агонь заняў ужо палавіну даху. Навокал сметніка стаяла група разявакаў. Праз некалькі хвілін прыімчаліся пажарнікі і пачалі гасіць агонь. Згасла. Той сметнік, дарэчы, гарэў ужо другі раз у гэтым годзе. Я не чытала рапарту пажарнай каманды, аднак добра ведаю, што піраманам пашанцавала адцягнуць мяне ад урокаў і падрыхтоўкі да кантрольнай з *фізы*. І найлепшым доказам сказанага з'ўляецца мая ацэнка. Вядома, гэтая з „менш пазітыўных".

**Жана Роля**

PS. Маю надзею, што гэтага тэксту настаўніца беларускай мовы не загадае пераказваць на ўроках маёй малодшай сястры і Караліна не пракаментуе яго словамі, што я „элегантная ідыётка".

Адгалоскі

# Мова маіх продкаў

Мяне завуць Ірэна Драўноўская. Я вучаніца восьмага класа.

На ўроку беларускай мовы настаўніца пазнаёміла нас з лістом Касі Шчэрбы, надрукаваным у „Ніве" н-р 43 ад 27.09.1998 года. Яна заахвоціла нас таксама выказацца на пытанні пастаўленыя Касяй. Я хачу падзяліцца ведамі пра нашу мову, якія я набыла на ўроках.

Беларуская мова паўстала і развілася разам з беларускім народам. Яе стварылі, няспынна ўзбагачалі і дасканалілі многія пакаленні.

Беларуская мова належыць да вялікай групы славянскіх моў. Усе яны роднасныя, бо развіліся са старажытнай агульнаславянскай мовы-асновы. Славянскія мовы паводле блізкасці дзеляцца на: усходнеславянскія, паўднёваславянскія і заходнеславянскія. Да ўсходнеславянскіх моў належаць: руская, украінская і беларуская. Таму гэтыя мовы найбольш да сябе падобныя.

Трэба адрозніць літаратурную мову, якую мы вывучаем на ўроках і дыялектную, на якой размаўляем у хаце. Гаворкі нашых вёсак розняцца. Інакш гавораць у Нараўцы, а інакш у Чаромсе.

Беларуская мова гэта мілагучная мова, мова маіх продкаў. Я хацела б заахвоціць Касю, каб яна вывучала яе.

**Ірэна Драўноўская,**
**VIII клас ПШ у Новым Корніне**



*Удзельнікі „зорчыных" конкурсаў з IV „ц" ПШ н-р 3 у Бельску.* Фота Г. Кандрацюк

# Польска-беларуская крыжаванка № 48

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 44:** Сук, сала, клас, ліс, прапанова, увага, каса, юка. Крук, лава, папас, сала, ало, дзівак, асада.

Узнагароды, **запісныя кніжкі-калькі**, выйгралі: **Дарак Ляўчук** з Чыжык, **Марк Цэтра**, **Лукаш Волчук**, **Агнешка Смактуновіч** і **Магдалена Вашкуць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | |
|---|---|---|---|
| Siła / Zima | ▼ | Stanowisko / Księżyc | ▼ |
| ► | | ▼ | |
| Las / Rosa | ► | | |
| ► | | | |
| Maca | Jad | ► | |
| ► | | | |



Талон „Зоркі" № 48
29.11.1998

# Фальклор фальклору не роўны

„Вушацкія называюць усё абы як сабранае, выдуманае й нявыдуманае, нешта й нешта, прастакаватае й хітраватае, вясёлае й сумнаватае, — тлумачыць Рыгор Барадулін, — адным словам *здубавецьця*". Гэтае роднае слова паважаны паэт, прэзідэнт беларускага ПЭН-цэнтра выкарыстоўвае ў якасці загалоўка незвычайнай кніжкі. Збору анекдотаў, прыказак, прымавак, загадак, прыпевак, што ні казаць, а сапраўды народных, з непрыхаваным востраым, з'едлівым гумарам, са „скаромнымі словамі й вобразамі", як напісаў сам укладальнік.

„У Вушачы быў славуты савецкі служачы Макеенка, — распавядае Барадулін. — Славуты тым, што выпіваў 25 куфляў піва. (...) І яшчэ славуты быў як спец па жанчынах. Жонка павяла карову да быка ў калгас прыгарадны, які сваёй галечай апраўдваў назву, у *Пралетарыю*. Працаўнік каровінага загса ня бачыць, хто прывёў карову, дый пытаецца, а ці здаровая карова, ці дужага быка трэба, а з вуліцы прыёмшчыца адказвае, што здаровая. Тады злучнік-разлучнік крычыць:

— Давай ёй Макеенку"!

Гэта прыклад з раздзела „Рагацьцё", у якім такіх „рагатых" гісторый багата. Як хаця б пра шляхцянку, што ў касцёле трымала малітоўнік дагары нагамі. „І суседка, якая ўмее чытаць, пытаецца, чаму пані так малітоўнік трымае. Шляхцянка адказвае: — То дома дзеці пшэвруцілі". Або пра тое, як старэйшыя ў Вушачы рэагавалі, калі па радыё перадавалі Купалаву „Паўлінку". „З радыё чулася: *Дзед боб малаціў, баба падсявала*. А кожны слухач сам сабе працягваў: *Дзед у бабы папрасіў, баба не давала*". Пасля некалькіх прыкладаў інтэрпрэтацыі вушацкімі класіка, Барадулін сцвярджае: „Янка Купала фальклор ведаў. Ведаў, дзе кропку паставіць".

Рыгор Барадулін таксама ведае фальклор. З той толькі розніцай, што не ставіць кропкі да часу, не чакае покуль самі чытачы даўмеюцца дапець няскончаны куплет. „У вуснах народнай песні, абрадавай ці побытавай, любое слова гучыць цнатліва, бо гэта йдзе яшчэ ад паганства, якое ня карысталася фігавым лістком, — піша Барадулін. — Насельнікі халаднаватай часьціны планеты грэлі свой юр, ятрылі сябе словам моцным, як пяршак. Каб род ня зьвёўся".

Ужо сам назоў раздзела „Я сваю Марынку хоць пасярод рынку!" добра паказвае характар гэтых вушацкіх „папевак".

„Чаго, мілка, дробна скачаш,
Тады дала, цяпер плачаш,
Тады дала, што хацела,
Цяпер плачаш, што ня цэла".

Гэта адзін з самых цнатлівых прыкладаў сабранай Барадуліным народнай паэтыкі, якую ён сам называе „фалічным фальклорам". Аж жаль, што ў „Ніве" не можна працытаваць больш салёных куплетаў. Як ніяк, а ўсё-ткі мы даволі далёка адышлі ад паганства і цяжка зусім адкінуць фігавы лісток, хай сабе і ўсе ведаюць, што за ім схавана. Да таго ж чытаюць нас школьнікі! Ну, дык хоць гэтую жыццёвую мудрасць:

„Людзі жэняцца, любуцца,
А мне ў невашта абуцца.
Хоць на дзеўцы і на печы
Босаму якраз дарэчы".

Іншы раздзел азагалоўлены таксама чыста па-вушацку: „Прыбабунькі". У гэтым слове „гучыць і байка, і бабуля, і булькат каменьчыка, кінутага ў крутавір усьмешкі і прасьмішкі". Яно „аб'ядноўвае такія навуковыя паняцці як прыказкі, прымаўкі, каламбуры альбо досціпы". Рыгор Барадулін прызнаецца: „прыбабунькі ў маёй мамы былі на кожным кроку, на першым прыскоку. З матчынай хаты яны пайшлі са мной, каб грэць, бадзёрыць, надзеіць мяне ў халоднай дарозе жыцця". А ў жыцці, як у жыцці, не заўсёды весела. Але, як кажуць „словы матчыны з Вушаччыны": „Ня было мяса, і п..да ня закраса". Часам, аднак і ў прымаўках наракаюць: „Доля мая ялаватая — аддалі ў сяло х...ватае".

Чытаючы „Здубавецьця", прыпомніў я, як ва універсітэцкія часы мы, студэнты-гуманітарыі падсмейваліся з сяброў з палітэхнікі. Чым розніца інтэлігенцыя ад тэхнічнай інтэлігенцыі, пыталі мы іх. І самі хутка падсоўвалі адказ: тым, чым культура ад фізкультуры.

Стары анекдот прыпомніў я таму, што ў гэтай кніжцы відаць, чым розніцца сапраўды народная творчасць, ад тае „народнае", складзенае па заказе гарадскімі аўтарамі, якая стала афіцыйнаю ў краіне саветаў. Больш-менш тым, чым прыпеўка:

„Ленін Троцкаму сказаў;
— Пойдзем, Троцкі, на базар,
Кабылку купім карую,
Накормім пралетарыю"

ад паўсюдна вядомых радкоў разбітальнай песні: „У нашым калгасе шырокае поле..." Дарэчы, Барадулін паказвае, як можна не менш прыгожа развітацца: „Мы паедзім, мы пайдзём, надаелі мы людзём".

**Мікола Ваўранюк**

PS. Цытаты згодна з правапісам аўтара.

# Шлях да Міцкевіча

*Мастак сумняваецца, цяжка ў зняверы,*
*І хоча туды, дзе чароўныя дзверы.*
*Ён думкай імкнецца у вечныя мары,*
*Вялікі гаротнік Кахання і Кары. (...)*
*...Мастак усвядоміў, спасцігнуў сам Веру,*
*Сабе адшукаўшы нясплёваны бераг...*
Віктар Шаціла

Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва далучылася да святкавання двухсотгоддзя з дня нараджэння нашага вялікага паэта Адама Міцкевіча, адзначаючы гэта выставаю твораў сваіх сяброў у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Гэтым распачала выставачны праект „Беларускае мастацтва на мяжы тысячагоддзяў". Акадэмія мае намер паказваць выставы прысвечаныя нышым вялікім суайчыннікам. Выстава „Шлях да Міцкевіча", адкрытая 26 ліпеня г.г., апявае Беларусь і яе сына, якога натхняла. Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва гэта незалежная арганізацыя мастакоў, існуе некалькі гадоў. Сябры акадэміі займаюцца выхаваўчай і навучальнай дзейнасцю (усе яны — выкладчыкі Беларускай акадэміі мастацтваў і мастацкіх школ, м.інш., мастацкага каледжа), дае стыпендыі лепшым студэнтам і дыпломнікам. Сярод сяброў акадэміі — Фелікс і Валяр'ян Янушкевічы, Рыгор Сітніца, Віктар Альшэўскі, Анатоль Бараноўскі, Уладзімір Вішнеўскі, Уладзімір Зінкевіч, Уладзімір Панцялееў, Георгій Скрыпнічэнка, Леанід Шчамялёў, Валерый Славук, Уладзімір Тоўсцік, Леў Алімаў, Мікалай Селяшчук (1947-1996), Юрый Хілька, Леанід Шчамялёў. Усіх, па прынцыпе, сорак сямёх (зараз у акадэміі абрана 20 мастакоў, на вакантныя месцы аб'яўляюцца выбары).

Стваральнікам БАВМ належыць гонар вялікага пачынання. На Беларусі пачала не проста дэкларавана існаваць, памнажаючы канцылярскі пыл, а была заснавана аднадумцамі дынамічная грамадская структура, якая аб'яднала майстроў розных пакаленняў з мэтаю сцвярджэння ў жыцці высокіх эстэтычных і этычных каштоўнасцей. Дзейнасць Акадэміі адбываецца адкрыта, пастаянна паявілчаецца колькасць атрымаўшых пазітыўны грамадскі рэзананс выставак і акцый. Работы мастакоў вядомы за межамі краіны, захоўваюцца ў прэстыжных зборах. Высокай праявай мастацкага патэнцыялу і грамадзянскага служэння Бацькаўшчыне сяброў Акадэміі з'яўляецца ўсталяванне манументальных аб'ектаў. Помнікі, мемарыяльныя знакі, сакральнае мастацтва — разам з развіццём беларускай мовы важкія фактары станаўлення нацыянальнай самасвядомасці, — гэта словы вядомага мастацтвазнаўцы Міхала Баразны.

У цяжкі час творцы з-за адсутнасці дзяржаўнай падтрымкі мусяць выходзіць самі. Даюць таксама імпульс іншым пачынанням, таксама і Саюза мастакоў. Кожны з іх па сабе — іншы, адметны па стылю, але яднае іх усіх высокі ўзровень прафесійнасці. У Міністэрстве культуры доўга не разумелі, проста нашто яшчэ адна недзяржаўная структура, калі дзяржава мае ў сабе арганізацыі, каб успамагаць і спрыяць інстытутам і суполкам, раней зацверджаным на дзяржаўным узроўні. Нават на адкрыццё выставы „Шлях да Міцкевіча" не прыйшоў аніводзін прадстаўнік Міністэрства культуры (хоць тое міністэрства ў каталозе пазначана як заснавальнік выставы).

Хоць выстава „пра Міцкевіча", самых партрэтных выяваў героя, як хтосьці мог бы спадзявацца, мала (Ф. Янушкевіч, В. Альшэўскі). Пануюць тут паэтычнасць і Беларусь. Паэтычнасць — тое няўлоўнае адчуванне настрою і часу, не толькі рамантызму, але тых двухсот гадоў, што праляцелі над Беларуссю і ўсёй Еўропай, ды яшчэ і посмак Княства. Бо гісторыя гэта сёння, толькі крыху раней... Мастакі вылівалі ў колер сваё адчуванне навеянае ім Міцкевічаўскімі радкамі, мясцінамі дзе ён бываў (У. Вішнеўскі — „Легенда пра Свіцязь", У. Тоўсцік — „Ценям пана Адама"). Беларускі пейзаж, рамантычны і фантастычны, натхніў Бараноўскага („Прадчуванне"), Зінкевіча, Хільку („Памяці былых сядзіб"). „Ценям Адама Міцкевіча" прысвячаюцца карціны, часам ледзь улоўным, як пах мінулага, але і слядам моцна адбітым, якімі, дарэчы, будуць і працы мастакоў, напрыклад Валяр'яна Янушкевіча — помнікі А. Міцкевіча ў Навагрудку, у Лідзе...

Выстава „пахадзіла" па Беларусі ў час святкаванняў гадавіны А. Міцкевіча. Да нас не трапіла. Пыталася я ў сяброў Акадэміі, ці іхныя праекты, прынамсі выставачныя, не агарнулі б і беларусаў Беласточчыны. Выступалі яны, адказаў Ф. Янушкевіч, да афіцыйных асоб. А тыя, пакуль што, не адгукнуліся. Папера, яна вядома, цярплівая, і любіць паляжаць. А можа — тым асобам зусім нецікава, каб і мы далучыліся да культуры ў найлепшым выданні? Можа, праз 200 наступных гадоў... Шляхам Міцкевіча папаходзім па свеце, каб дабрысці да роднага парога...

**Міра Лукша**



*Фелікс ЯНУШКЕВІЧ, Міцкевіч: Акупацыя; палатно/алей, 100 х 80*

# Незвычайныя госці

15 лістапада 1998 г. у асяродку культуры ў Чаромсе з канцэртам паспяхова выступіў народны калектыў песні і танца „Магдаліна" з Кобрына Брэсцкай вобласці.

Мастацкім кіраўніком калектыва з'яўляецца Галена Букач. Кожная частка праграмы канчалася бурнымі апладысментамі. Гітам канцэрта было выкананне песні самай малодшай удзельніцай Машай Мякішавай. Бурныя воплескі аўдыторыі не дазвалялі сысці ёй са сцэны і салістка вымушана была выканаць яшчэ адну песню на біс.

Хачу адзначыць, што аўдыторыю на канцэрце складалі людзі старэйшага пакалення і песні выкананыя артыстамі былі ім добра вядомыя.

Пасля канцэрта я правёў кароценькую размову з Галенай Букач.

— Калектыў існуе ўжо шэсць гадоў. Праз гэты час мы дабіліся немалых поспехаў. Выступалі на Фестывалі нацыянальных культур у Гродне, дзе тры гады запар заваёўвалі першае месца. Выступалі на І Рэспубліканскім фестывалі „Беларусь мая песня" ў горадзе Брэсце і Мінску. І тут атрымалі дыплом лаўрэата. Тры разы ўдзельнічалі на фестывалі ў г. Турка Львоўскай вобласці. Некалькі разоў выступалі ў перадачах Беларускага тэлебачання. Утрымоўваем сяброўскія суадносіны з культурнымі ўстановамі Бяльска-падляшскага ваяводства, а дакладней кажучы з асяродкам культуры і калектывам з Плятэрава.

— Якія творы складаюць рэпертуар вашага калектыву?

— У асноўным прыпамінаем даўніну і вясельную абраднасць, хрысціны, дажынкі і калядкі. Крыніцай ведаў з'яўляюцца нашы бабулькі і дзедкі... У калектыве 17 асоб. Самымі малымі з'яўляюцца Маша Мякішава і Дзіма Новік. Характэрная з'ява што аж тры сям'і апынуліся ў калектыве.

— Якія ўражанні ад канцэртаў у Польшчы?

— Самыя добрыя. Хацелася б, каб такіх сустрэч было больш. Гэта самая лепшая нагода да абмену думкамі, поглядамі, наладжвання сяброўскіх кантактаў.

**Уладзімір Сідарук**

# Nihil novi



*Сцэна са спектакля „Перад світаннем": (злева) Люцына Іодзькоўская, Роберт Нінкевіч, Кшыштаф Лаўнічак, Кшыштаф Дамброўскі, Славамір Паплаўскі, Пётр Пуўторак.*

У драматычным тэатры імя А. Вянгеркі 8 лістапада адбылася першая ў гэтым сезоне афіцыйная прэм'ера спектакля „Перад світаннем", пастаўленага на 80 гадавіну незалежнасці Польшчы. Прэм'ера гэтая тым больш істотная, што адбылася ў той час, калі змянілася дырэкцыя тэатра, ды прадаўжаецца яго рамонт.

Месца для спектакля знайшлося ў так званай **сцэнічнай кішэні** тэатра, ужо ўпарадкаванай і з крэсламі.

У тэатры наракаюць на журналістаў, што „не пакінулі на іх сухой ніткі". Сапраўды, хтосьці назваў спектакль „акадэміяй у гадавіну", закідаючы тэатру, што ён зроблены па заказе спонсара (тэатру надта патрэбныя грошы на рамонт), нехта напісаў, што не верыць, каб гэта зразумела моладзь, да якой спектакль быў адрасаваны, хаця ён няшмат перавышае ўзровень школьнай акадэміі „ў чэсць...".

Мяркую, што спектакль, рэалізаваны Ежы Гуткам на падставе гістарычных крыніц (кансультант праф. Адам Дабронскі), пры выкарыстанні „Галінак розмарыну" Зыгмунта Навакоўскага **няшмат праясніць у галаве і пэўнай панюсі**, якая выказалася ў вулічнай анкеце „Polsatu". „Што гэта за гадавіна?" — спытаў у яе журналіст. „Ну, гэта ж было такое вядомае паўстанне ў 1917 годзе!" — адказвае панюся. „А якое гэта было паўстанне?" — здзіўляецца журналіст. „Ну, Студзеньскае, вядома!" — не міргнула вокам самаўпэўненая баба.

Лічу, аднак, што нельга, як зрабілі гэта некаторыя, назваць „мастацкім фіяскам" спектакль, гледзячы ў вочы дасканала іграючым акцёрам ці сцэнографу Рышарду Кузьмышыну, які ашчаднымі сродкамі зрабіў вельмі цікавую дэкарацыю (ні то акоп, ні то зямлянка з негабляваных бярвенняў).

А што мае ён рысы колішніх урачыстых вечароў і акадэмій, дык проста пры нагодзе высветлілася, што „nihil novi" на гэтым свеце. Усё залежыць ад часу, у якім мы жывем.

**Ада Чачуга**

PS. Спектакль будзе ставіцца да 18 снежня гэтага года. Штотыдзень — ад аўторка да пятніцы іграюць два разы: а $11^{00}$ і $13^{15}$. У суботы і нядзелі — толькі а $19^{00}$. Аднак на дзённыя спектаклі ўжо амаль усе білеты (у асноўным — школам) прададзены. **(ач)**

# Леснікам і іх сем'ям

**11 лістапада 1998 года адбылося ў Тапіле (гміна Гайнаўка) асвячэнне помніка леснікам і іх сем'ям, загінуўшым у 1939-1945 гадах.**

Урачыстасць прымеркавана была да святкаванняў у Гайнаўцы Дня незалежнасці. Запрошаныя госці і гайнаўяне паехалі да помніка вузкакалейнай чыгункай, якой звычайна турысты ездзяць на адпачынак. На мерапрыемства прыехалі, між іншым, бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк, старшыня Гарадской рады Яўген Сачко, прадстаўнікі ўлад суседніх гмін, праваслаўнае і каталіцкае духавенства, прадстаўнікі Белавежскага парка і Управы Дзяржаўных лясоў. Стужку перарэзаў дырэктар Беластоцкага аддзела Дзяржаўных лясоў Пётр Зброжэк, а надлясніччы Ежы Лугавой коратка паінфармаваў пра ідэю пабудовы помніка. Было таксама некалькі слоў пра капліцу побач помніка, прысвечаную Белавежскай пушчы.

Асвячэнне помніка і капліцы ўзначальвалі біскуп Драгічынскай каталіцкай дыяцэзіі Антоні Дыдыч і праваслаўны дэкан, айцец Міхаіл Негярэвіч, які замяшчаў гайнаўскага епіскапа Мірана. На мемарыяльнай дошцы на помніку віднеюць словы: „Аддалі мы жыццё за белавежскія кнеі. Прахожы, ушануй нашу ахвяру". Побач каменя — высокі на 7 метраў жалезны крыж. Галоўным ахвяравальнікам помніка быў пакойны Казімеж Кубацкі, вядомы ў Гайнаўцы прадпрымальнік, а пліту з бронзы падарыў гайнаўскі надлясніччы Ежы Лугавой.

— Паставіць гэты помнік разам са спадаром Казімежам Кубацкім хацелі мы ўжо год таму, але тады не атрымалася, — расказвае мастак Віктар Кабац, які праектаваў помнік і дагледаў яго пабудову. — З Белавежскай пушчы вывезены было на Сібір 416 сем'яў, што складае недзе пад паўтары тысячы асоб. Перад усім былі гэта леснікі, дырэктары прадпрыемстваў, навуковыя супрацоўнікі, якія працавалі тады ў парку, але былі і звычайныя лясныя работнікі ці жыхары навакольных вёсак. Калі глядзець на нацыянальнасць, дык былі гэта і палякі, і беларусы, і немцы, і яўрэі. Гайнаўка, у якой паўставалі тады дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы, з'яўлялася найлепшым адлюстраваннем грамадскіх саслоўяў, якія папаліся ў Сібір. Пасля людзі гінулі ад немцкага акупанта, а былі і такія, якія трапілі ў фашысцкія канцлагеры.



*Каплічка ў гонар Белавежскай пушчы.*

Асвечана была таксама і каплічка побач помніка, якую запраектаваў і выканаў Віктар Кабац. Мастак выкарыстаў тоўсты пень ліпы, у якім было вялікае дупло. Не здымаючы звонку кары, пабольшыў ён уваход у дупло і замацаваў усярэдзіне тоўстую дубовую шпалу, на якой выканаў іконы двух святых, праваслаўнага — Серафіма Сароўскага і каталіцкага — Францыска Асізскага. У сярэдзіне каплічкі знаходзіцца таксама дошка, на якой рэпрадукцыі іншых ікон, а можна прымацоўваць там і розныя эмблемы.

— Каплічка ўсяленная, прысвечаная ўсёй Белавежскай пушчы, яе звяррыне і раслліннасці, — расказвае яе стваральнік Віктар Кабац. — Святыя Серафім Сароўскі і Францыск Асізскі змешчаны тут невыпадкова. У сваім зямным жыцці любілі яны прыроду, апекаваліся звярынай і займаліся раслліннасцю. Калі пісаў я на дубе іконы, спачатку зрабіў рыт долатам у дубе, напісаў тэмперай, а пасля зацягнуў алейнай фарбай.

Падрыхтаваць тэрыторыю памагалі гайнаўскія гарцэры, якімі апякуецца айцец Марк Якімюк, і якія ў час урачыстасці трымалі варту. У пабудове многа дапамаглі лясныя працаўнікі, якія з'явіліся і на мерапрыемстве. Сустрэча ў лесе закончылася ўспамінамі каля вогнішча. Апекавацца згаданым месцам будуць айцец Іосіф Войцюк, настаяцель прыхода ў Вэрстоку і каталіцкае духавенства з Гайнаўкі.

**Аляксей Мароз**

*Фота Ежы Славікоўскага*



*Мастак Віктар Кабац каля помніка.*

Адгалоскі

# Філасофія заходніх людзей

Цікавяць мяне беларускамоўныя выданні і ў іх часам даводзіцца чытаць выказванні, якія не адпавядаюць філасофіі і спосабу думання, характэрных людзям заходніх краін. Чытаючы „Ніву" № 43 (2163) ад 26 кастрычніка 1997 г. маю ўвагу прыцягнуў артыкул Васіля Петручука „Узнагароды, узнагароды" (я б назваў яго „Камунізм проста сакрэт: каму на, а каму нет!"). Аўтар хоча пахвалы ад Чэхіі за добры ўчынак, здзейснены на тэрыторыі гэтай дзяржавы (прадухіліў ён дарожную аварыю). У такой сітуацыі людзі павінны чакаць, а не патрабаваць пахвалы. Аўтар таксама не разумее, што саветы, асвабаджаючы многія краіны ад нямецкіх захопнікаў, адначасна захапілі іх пад сваю савецка-расійскую дыктатуру і амаль паўвека акупавалі сярэднюю частку Еўропы. Не пацікавіўся ён таксама, колькі народу знішчыў Савецкі Саюз, у тым ліку беларусаў, украінцаў, палякаў на захопленых ім землях. Не разумею, чаму беларусы і украінцы павінны дзякаваць аўтару за тое, што абараняў ён помнік Савецкай Арміі, калі яго разбуралі ў Беластоку ў 1990 годзе. Гэта ж не быў беларускі ці ўкраінскі помнік, а савецкі! Савецкага Саюза ўжо няма, дык і няма каму дзякаваць В. Петручуку. Усім вядома, што саветы панаставілялі шмат сваіх статуяў у акупаваных імі краінах і калі савецкая дыктатура знікла, кожная самастойная дзяржава пазбаўлялася іхніх помнікаў, якія нагадвалі перыяд савецкай няволі. Кожны народ мае сваіх герояў і ён вырашае, каго ўшаноўваць. Чужое не нагрэе.

**К. Верабей,**
**Нью-Йорк**

PS. Прабачце за спознены допіс, але газету я атрымаў толькі ў гэтым годзе, ад знаёмага.

# Каб хацяя грош зарабіць



*16-гадовая Ксенія Карнеева з братам Паўлам у Варшаве — 1924 год.*

— Мой дзед паходзіў з Расіі, але тут служыў у войску і тут ажаніўся, — успамінае **Ксенія ЯКІМОВІЧ**, 90-гадовая жыхарка Орлі. — Мой бацька, Дзяніс Карнееў, працаваў на чыгунцы ў Беластоку. Мама аўдавела і бацька ажаніўся з ёю. Быў гэта вельмі добры чалавек, ніколі на маці не сказаў дрэннага слова, а суседзі называлі яго анёлам.

У 1915 годзе ў бежанства падаліся бацькі — Дзяніс і Параскева, браты Саша, Андрэй і Павел ды я — семігадовая дзяўчынка. Пасялілі нас у горадзе Раманаве Яраслаўскай губерні, над самой Волгай. Жылі мы ў вялікім доме разам з сарака іншымі сем'ямі, а спалі па некалькі чалавек на нарах. Спачатку елі мы свае запасы — прывезеныя з сабою сухары, а потым далі нам г.зв. паёк — па 20 капеек на душу ў дзень. Мясцовыя да бежанцаў ставіліся прыхільна і дапамагалі нам. Можна было ісці на работу. Бацька працаваў на чыгунцы.

Вярнуліся мы ў Орлю ў 1918 годзе, але нам ужо не было месца, бо ўсё занялі яўрэі. Паўгода жылі мы ў зямлянцы накрытай галлём і пяском. Есці варылі мы пад адкрытым небам. Потым два гады прыйшлося нам жыць разам з яўрэямі, якія пасля выезду праваслаўных у Расію занялі нашу хатку. Было цяжка. Некаторыя, асабліва старэйшыя людзі, пухлі ад голаду і паміралі. Асноўным харчом было шчаўе. Памятаю, як з братам Сашам хадзілі мы рваць шчаўе. Прыносілі мы паўмяшка, а маці парыла яго і дадавала льняную макуху. Атрымоўваўся свайго роду зялёны, кіслы і слізкі салат, які з адной міскі ў семярых мы елі. Так есці хацелася, што, здавалася, пясок будзеш есці.

Пад Вялікдзень ці Раждаство прасілі мы маці зварыць нам бульбы, бо гэтае шчаўе надта ўжо надаела. Не было сала і бульбу закрашвалі таксама льнянай макухай. Ох, якая ж смачная была тады бульба! Пра мяса мы нават і не думалі. Некалькі гадоў мы так галадалі. Не было таксама ў што апрануцца. Была ў мяне адна-адзіная льняная сукенка, у якой хадзіла я кожны дзень. Не было як у царкву зайсці.

Закончыла я толькі пяць класаў. У пятнаццацігадовым узросце трэба было ісці на службу да яўрэяў. Папала я ў Варшаву да сям'і Бенцыяна і Дыны Аш. Яна была высокай жанчынай, а муж быў нізкі — даставаў ёй толькі да пляча. Мелі яны аптовы склад металапрадуктаў. Я пільнавала дзяцей — Манька, Лявона і Срулька, рабіла пакупкі, варыла, мыла бялізну. Мая гаспадыня мела ў Орлі сястру, няшчасную Слове, ад якой у 1938 г. пачаўся вялікі пажар мястэчка. Гэта дзякуючы ёй я апынулася ў сталіцы. Яўрэй Аш плаціў мне добра — спачатку 30 зл., але калі я хацела вярнуцца дадому, павысіў да 50 зл. у месяц. За адну зарплату я магла апрануцца. Купіла я сабе плюшавае паліто і сукенку. Нават захавалася ў мяне фатаграфія з варшаўскага перыяду. Мой старэйшы брат Павел і Сярожа Гаўза з Орлі служылі тады ў Варшаве ў войску і часта мяне наведвалі. Мама пісала мне, што яна вельмі смуткуе і баіцца, што мяне яўрэі возьмуць на мацу. Я ёй паслала свой здымак і маці ўжо менш плакала.

У Варшаве прабыла я чатыры гады. Вярнуўшыся ў Орлю пайшла я працаваць на кафлярню Сруля Вайштына. А потым выйшла замуж за Сярожу Якімовіча. Спачатку сталі мы жыць у цёткі, а потым паставілі драўляны дом. Неўзабаве з'явіліся на свет дзве дачкі — Надзя і Геня.

Калі дзеці падраслі і сталі вучыцца ў Бельску, патрэбны былі грошы на вопратку, кніжкі. Хапалася я тады любога занятку, каб прызарабіць нейкі грош. Пачала я людзям рабіць валёнкі з воўны. Гэтаму рамяству навучылася я ў час вайны ў савецкіх салдат, якія жылі ў нашым доме. Адзін з іх па прафесіі быў кушнерам, а другі рабіў валёнкі. А рабілі іх такім чынам: на змочаным кавалку палатна насцілалі воўну, потым яго скачвалі разам з воўнай у трубку і камячылі рукамі да ўтварэння пласта. Пластам надавалі форму бота, аблівалі кіпетнем і раскачвалі ды цёрлі спецыяльнай качалкай, каб ушчыльніць выраб. У такіх валёнках можна было хадзіць на снезе без галёшаў. У мяне ёсць яшчэ такія валёнкі. Зімою, калі многа снегу, выходжу ў іх у хлеў па дровы.

Шэсць гадоў таму памёр мой муж і цяпер жыву адна. Кожнае лета дзеці, унукі і праўнукі прыязджаюць да мяне на канікулы. Летась дачка Геня з Бытама зрабіла капітальны рамонт майго дома. Цяпер ёсць у ім цэнтральнае ацяпленне і лазенька. Калісьці Геня сама вернецца ў Орлю. Калі дзеці ад'едуць, то мне становіцца сумна і ўвесь час думаю пра іх. У свабодны час трохі чытаю, займаюся ў агародчыку...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**
*Рэпрадукцыя аўтара*

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 28**

„Наша ніва" за 1910 год у далейшым змяшчала публікацыі з жыцця беларусаў, што жылі на ўсходняй Беласточчыне. Аднак іх колькасць была параўнаўча невялікай. Затое інфармацыйная ды аналітычная іх каштоўнасць былі значныя. Прыкладам можа быць артыкул падпісаны псеўданімам Язэп з-пад Карыцціна. Знаходзім у ім нямала фактаў, якія характарызуюць і сённяшняе наша жыццё на беларуска-польскім этнічным пагранiччы, ды і ўвогуле на ўсходняй Беласточчыне.

„С. Карыцінскай парафіі, Гродненскай губерні, Сакольскага павета (сумежнага з Польшчай). Нехта праслаў у наш бок некалькі штук „Нашай нівы". Пачалі тады ўсе карыстацца, збірацца ды й голасна чытаць „першую беларускую газэту". Перш-наперш усе здзіваваліся, што выходзіць газэта, ды й друкуюцца кніжкі ў нашай роднай мові. А пасля падняўся вялікі гоман. Яны казалі, што гэта „хамская", брыдкая мова, дык лепей чытаць польскія газэты;ізноў іншыя (больш сталыя) давводзілі, што з польскай хай карыстаюцца палякі, а беларусам і беларуская мова прыгожая. Бо вядома, што кідаць сваё роднае, дый чапляцца да чужога? Лепей мець свой уласны кут, як быць прымаком у чужой хаце.

Толькі ў „Нашай ніве" не зусім гэткая мова, як у нас. Бо ў нас, як кажуць, дык ніхто не разбярэ як: ці па-польску, ці па-беларуску? Намяшалі, намяшалі розных слоў, а той што вярнуўся з маскалёў, яшчэ якое слова прыкіне, прымерам кажучы, „пакамест", — дык выйшла ні то мова, ні то гаворка, хоць ты за галаву хапайся. А тым часам кожны з іх думае, што гутарыць „па-далікатнаму".

Гаспадары ў нас не бедныя; бадай кожны з іх мае добрага каня, колькі кароў, дый нейкую хату. А хаты, дык густа-часта пападаюцца мураваныя, крытыя дахоўкай, дзеля таго, што шмат гаспадароў мае свае ўласныя машыны, у якіх выпрабляюць цэглу і дахоўку, бо ў нашым баку да гэтых рэчаў гліна вельмі прыдатная. Народ тут бойкі, сціплы, дык з нашых вёсак шмат павыходзіла, як кажуць, у людзі. Той мае сына—ксяндза, той начальніка станцыі, іншы доктара або інжынера. І, здаецца гэтулькі розных людзей, а тым часам не гледзячы на тое, што калісь насілі ў зубах кашулю з простага палатна і ў бязлетнасці гукалі па-беларуску, цяпер ужо стыдаюцца сваёй роднай бацькоўскай мовы, дык кожнаму безмалімонна суюць усё, абы толькі не беларускае. Во якая пайшла цяпер адукацыя, а розум, відаць, не пры нас пісаны.

Язэп з-пад Карыціна"

Што ж можна яшчэ сказаць пра вышэйпрыведзеную публікацыю? А мабыць тое, што яна як бы жыўцом вынята з нашай актуальнай ўсходнебеластоцкай рэчаіснасці. Зразумела, што не маю на думцы карыцінскага абшару, там беларусы ўжо досыць даўно спаланізаваліся. Сёння беларуска-польская мяжа значна перасунулася на ўсход. І тыя праблемы, якія апісаў нашаніўскі аўтар характэрныя зараз не толькі на заходняй Сакольшчыне, але і ў вёсках распаложаных пад польскай і беларускай дзяржаўнай мяжой. Мы сёння ў істоце амаль таксама безнадзейныя ў адносінах да ахарактарызаванай карэспандэнтам „Нашай нівы" праблемы, як і ён амаль дзевяноста гадоў таму.

Каштоўнасць прыведзенай публікацыі заключаецца ў тым, што невядомы нам аўтар сумленна і аб'ектыўна прадставіў факты, якія свядомым беларусам сёння баляць у такой самай ступені, як балелі нашаніўскаму аўтару. Адчуваю ў адносінах да гэтага чалавека глыбокую ўдзячнасць за тое, што з такой адкрытасцю напісаў пра нас горкую праўду.

**Алесь Барскі**

# Наша пошта

У 1941-1944 гадах мяне і маю сям'ю вывезлі з Нараўкі ў вёску Прыбуткі (гміна Нарва). З Нараўчанскай гміны ў час нямецкай акупацыі вывезлі 31 вёску, частку з іх спалілі. Ноччу нямецкае войску акружала вёску, выганяла людзей і дзяцей ды пад зброяй пагружала іх на фуры — ніхто не ведаў, куды іх павязуць. Хто вырашыўся ўцякаць, у таго стралялі. Вёску палілі. Людзі выганялі з хлявоў свой дабытак, але ён той вяртаўся ў хлявы і жыўцом там паліўся. Гэта быў страшны здзек над жывёлай і над людзьмі. Не было ў нас ні кватэраў, ні харчоў, а жылі мы па вёсках у гаспадароў. За дзень працы ў гаспадара нам давалі раз паесці — была гэта ўся заплата. Бацька выкапаў зямлянку і ў ёй мы жылі да заканчэння вайны. У лістападзе 1942 г. бацьку застрэлілі партызаны ў вёсцы Прыбуткі — разам з ім загінула 14 чалавек. Засталося нас чацвёра малых дзетак пры маці, якая мусіла хадзіць па вёсках і жабраваць, каб нас пракарміць. Не было ў нас ні адзежы, ні абутку — басяком хадзілі мы па мёрзлай зямлі. Для нас была гэта сапраўдная нэндза і голад, лёс горшы, чым той, які сустрэў асобы вывезеныя на працу ў Нямеччыну. Там чалавек меў дзе спаць, што есці і пастаянную працу.

Чаму нашы ўлады не ставяцца аднолькава да ўсіх вывезеных немцамі людзей, нягледзячы на тое, куды іх вывозілі? Для нас быў жа гэта канцлагер: голад, холад і смерць. Пазбавілі нас маёмасці і чалавечых правоў. Чаму ў прызнанні камбатанцкіх правоў (патрабуецца два сведкі і подпіс начальніка гміны) улады дзеляць людзей на катэгорыі?

**Сяргей Хадакоўскі**

**У Літвінавічах, Гайнаўцы і Кляшчэлях**

# Памятаюць пра сенiёраў

Сёлета ў лістападзе ў многіх мясцовасцях адбыліся ўрачыстыя святкаванні Дня сеніёра.

7 лістапада адбылася сустрэча сеніёраў у Літвінавічах (Нурэцкая гміна). У тамашняй вясковай святліцы спяваў для іх маладзёжны калектыў „Вясёлка" з Нурца-Станцы ды вакальна-інструментальны з Сямятыч, свае вершы чыталі члены сямятыцкага літаратурнага клуба, у тым ліку народная паэтэса Станіслава Грабаноўская з Нурца-Станцы. Пасля мастацкай часткі наладзілі пачастунак. Да танцаў гралі гарманісты Станіслаў Германовіч і Аляксандр Рышчук. Гэтае ўдалае мерапрыемства наладзілі Гмінны асяродак культуры і Гмінны асяродак грамадскай дапамогі ў Нурцы-Станцы ды Сельскагаспадарчы дарадчы цэнтр у Сямятычах.

* * *

14 лістапада ў Гайнаўскім доме культуры (ГДК) святкавалі Дзень сеніёра члены тамашняга клуба „Рэха пушчы". Яны запрасілі да сябе сеніёраў з Белавежы і Бельска-Падляшскага. Спяваў ім беларускі хор ГДК, а да танца іграў вядомы музыка-самавук Віктар Саладуха з Гайнаўкі. Усе ўдзельнікі вечарыны былі задаволены.

* * *

15 лістапада г.г. гурток Саюза пенсіянераў, рэнтыстаў і інвалідаў ды Мейска-гмінны асяродак культуры (МГАК) у Кляшчэлях арганізаваў святкаванне Дня сеніёра. З гэтай нагоды ў МГАК адкрылі выстаўку акварэляў Таццяны Рапко „Па ёй асталася прыгажосць". Маладзёжны драмгуртак з вёскі Сакі, які працуе пад кіраўніцтвам Валянціны Дзмітрук, выставіў п'есу. Затым аркестр іграў мелодыі з мінулых гадоў і пад яго гукі гулялі ўсе. Інструктарка з МГАК вяла цікавыя віктарыны і конкурсы. Усім было весела і прыемна. Спонсарамі мерапрыемства былі Мейска-гмінны асяродак грамадскай дапамогі і Кааператыўны банк у Кляшчэлях. **(гай)**

Адгалоскі

# Рак лезе ўзад

Мікалай Лук'янюк хоча падлізацца Міхасю Куптэлю хвалячы ў сваёй адгалосцы „дэмакратычных" немцаў. Дай Бог, каб так было, бо інакш Польшчы можа скора быць каюк. Спадар Лук'янюк засцерагае, што ў допісе М. Куптэля ёсць крыху няпраўды, а рэшта, відаць, — „чыстая праўда". Лук'янюк трымаецца прынцыпу „твой вораг — мой найлепшы прыяцель". А што я ў М. Куптэля найгоршы вораг, я даўно пераканаўся, хаця ніколі яго ў вочы не бачыў і колькі разоў хваліў яго ў сваіх вершах і публікацыях — усё дарэмна. Хваліць ужо не буду нікога, але не дамся, каб хто гадзіў на маю галаву і хопіць у мяне сілы, каб такіх ад сябе адкінуць. М. Лук'янюк піша: „Калісьці ў «Ніве» М. Панфілюк крытыкаваў рускіх, апісваў якія яны былі лахудры прыйшоўшы на нашую зямлю. Ён расхвальваў немцаў, пісаў як яны раздавалі цукеркі, шакалад, а нават кансервы. М. Панфілюк раз расхвальвае немцаў, а раз рускіх, а потым крытыкуе карэспандэнтаў не ведаючы за што і сам думае, што толькі ён піша праўду".

Разбярэм па парадку напісанае М. Лук'янюком. Каго і як крытыкаваў я на старонках „Нівы"? А вось: не рускіх я крытыкаваў, барані Божа, бо яны для мяне родныя браты і святасць ад пачатку майго нараджэння, а крытыкаваў толькі савецкіх бальшавікоў, выхаванцаў Сталіна і Берыі, і яны для мяне былі, ёсць і будуць лахудрамі, ашуканцамі, зладзеямі і злачынцамі, і гэта яны ў палове кастрычніка 1939 года абгадзілі нашу старонку як мошка. Гэта быў найгоршы элемент рускага народа, і шчасце, што ён састаўляў мо толькі 2 працэнты гэтага народа. А рэшта гэта простыя і нявінныя людзі, якія цярпелі як ніхто на зямлі. Былі таксама сумленныя камуністы сярод рускіх і яны вельмі многа добрага зрабілі сваёй радзіме; і такіх я хвалю і буду хваліць. А бальшавік і камуніст — гэта два полюсы. Ці ведае аб гэтым паважаны М. Лук'янюк? Парадачных камуністаў, польскіх і другіх, я хвалю і буду хваліць і ніхто мне гэтага не забароніць!

Я першым на старонках „Нівы" асудзіў дзікі бальшавізм, але ці гэта зрабіў М. Лук'янюк? О, не! Ён і сёння віляе сваім хвастом, бо не будзе асуджаць такіх як сам. А ці я расхвальваў немцаў? Відаць, М. Лук'янюк не помніць, калі так піша. Я толькі пісаў і пішу як гэта ў Дубічах-Царкоўных у кастрычніку 1939 года жыхары **мелі горача** вітаць вызваліцеляў і была пабудавана вітальная брама, а тут на іх месца прыхлынулі ўзброеныя да зубоў немцы і аддавалі чэсць партрэту Сталіна і раскідалі навокал цукеркі, шакалад, а нават кансервы. І людзям здавалася (як і сёння здаецца), што немцы найлепшы і дэмакратычны народ. Аднак чэрвень 1941 года развеяў гэты небяспечны туман. Мо яшчэ я пісаў, што немцы добрыя гаспадары, бо і гэта праўда, хаця добрыя толькі сабе. Нашы людзі, якія да вайны жылі ў горы пад чужой дамінацыяй, віталі саветаў горача, аднак скора апякліся іхнім „лёгкім хлебам".

А ці я крытыкую карэспандэнтаў? Не, я толькі баранюся перад атакамі розных крумкачоў; гэта мае адказы. Спадару Лук'янюку я толькі вытлумачыў, хто такі сектант; і ні адзін слоўнік так не вытлумачыць. І хай Мікалай Лук'янюк ведае, што рак намнога разумнейшы за другіх, бо рак водзіцца ў чыстай вадзе.

**Мікалай Панфілюк**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 787. Мікалай Прускі (Гранд Рапідс — ЗША) | 100 дол. ЗША |
| 4 788. Сцяпан Андрасюк (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 789. Уладзімір Юзвюк (Беласток) | 20,00 зл. |
| 4 790. Віктар Бура (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 791. Міхал Пясэцкі (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 792. Віталь Луба (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 793. Яўгенія Палоцкая (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 794. Галіна Рамашка (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 795. Міраслава Лукша (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 796. Радаслаў Мацієвіч (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 797. Аляксандр Вярбіцкі (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 798. Марыя Федарук (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 799. Ада Чачуга (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 800. Аляксей Мароз (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 801. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) | 100,00 зл. |
| 4 802. Міхал Панфілюк (Нараўка) | 50,00 зл. |
| 4 803. Міхал Байко (Беласток) | 30,00 зл. |
| 4 804. Зіновій Галёнка (Варшава) | 20,00 зл. |
| 4 805. Мікалай Нікалаюк (Гайнаўка) | 20,00 зл. |
| 4 806. Зоя Жалязоўская (Бельгія) | 300,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 30 16.

Адгалоскі

# Ад хваробы няма радасці

„У Беластоку найбольш любяць размовы пра хваробы", — сцвярджае Ева Сцепанюк у допісе „Усё баліць" („Ніва" н-р 45 ад 8.11.1998 г.). Відаць, аўтарка — жанчына маладая і здаровая. Інакш ведала б, што хвароба нікому не з'яўляецца ніякай улюбёнай тэмай, з выключэннем, зразумела, іпахондрыкаў. Пра хваробы найчасцей гавораць людзі сапраўды хворыя. Калі хто даўжэй цяжка хварэе — для яго гэтая справа становіцца першараднай. Хвароба пачынае дыктаваць жыццю свой уласны рытм. Перастаюць быць важнымі ўсе справы, якімі чалавек дагэтуль жыў. Хворы ўвесь свой час і сілы прысвячае барацьбе з немаччу. Менавіта і пра гэта ён найчасцей гаворыць. Што гэтак ёсць, ведаю сам найлепш, таму што і мяне штораз часцей немач бярэ ў свае колы.

Праўда, я са сваімі праблемамі нікому не накідаюся, але калі хто пацягне — свядома ці несвядома — за язык, тады і адпаведнае пачуе. Не абазначае гэта, што такая размова дастаўляе мне задавальненне. Магчыма, адчуваю нейкую палёгку на душы, што выкінуў знутры маленькую частку свайго гнятучага цяжару, хаця гэта толькі ілюзія.

Людзі здаровыя, як прыкмячаю, выказванняў хворых пра недамаганні асабліва не пераймаюцца. Сёй-той кіне нейкую параду і адыдзе. Здараюцца і такія, якія ў паводцы нараканняў знаходзяць сілы для сябе — інакш кажучы, усведамляюць сабе, што яны — са сваім здароўем — быццам астравы пасярод мора хворых. А ёсць і такія, якіх проста цешыць немач бліжняга. Найгоршая ўсё ж сітуацыя, калі сыдуцца двое хворых. Яны свае хваробы расцёпаюць да апошняй жылачкі — для іх жа гэтая справа найважнейшая!

Мне думаецца, што зараз людзі сталі часцей хварэць не толькі ў самім Беластоку. Гэтую некарысную з'яву назіраю таксама ў сваёй роднай Белавежы і ў Гайнаўцы. Не памагае нават тая прырода, якая нас акружае. Зрэшты, як мае памагаць, калі яна сама чакае ад нас помачы! Затруцілі мы сваё асяроддзе і саміх сябе. Што ж, што пасеялі, тое і збіраем!

**Пётр Байко**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! Прысніўся мне страшны сон. Быццам бацькі мне сказалі, што памерла мая бабка. Загадалі яны мне пайсці ў пахавальнае бюро і выбраць там труну для бабкі. Па дарозе я сустракала знаёмых. Сярод іх былі дзве мае настаўніцы, сяброўка са школы.

Калі я ўжо вярталася, то пайшла да бацькоў, якія былі ў касцёле, дзе была лазня, спецыяльна падрыхтаваная для мыцця памершых. Там маю бабулю мылі, а я спужалася і ўцякла.

Як толькі я сустракала кагосьці са знаёмых ці пра тое, што здарылася, падумала, то зараз жа плакала, бо ведала: няма маёй бабулі.

А пасля мая бабуля ажыла. І вось ужо мы з ёю і дзедкам ідзем па ўсходах уверх і ўверх. Аднак жа бабуля была нейкая зусім без жыцця, дзіўная, быццам бы ў яе нутры не было ніякіх органаў. Але бабуля мяне ўвесь час прытуляла, і я падумала, што яна ажыла і што ўсё наконт яе смерці гэта няпраўда, а бацькі мяне проста ашукалі. А тут бачу: бабуля ізноў зрабілася слабая і недалужная.

І зноў усё вярнулася ў лазню, бо, калі бабуля зноў памерла, то бацькі яе забралі, каб памыць. Калі бабулю неслі, яе ногі цягнуліся па зямлі, бо цяпер ужо яна сапраўды памерла. А я ўсю дарогу плакала з жалю. Я на хвіліну выйшла з лазні, калі бабулю мылі. Не магла глядзець на гэта. Калі я вярнулася, то яшчэ мае бацькі бабулю мылі, а навокал было шмат крыві. Я перапужалася, а бацькі кажуць, што гэта кроў засталася па папярэдняй асобе.

Твар бабулі быў вельмі спакойны. Бацькі яе неслі, бо бабуля была вельмі лёгкая. І тут я прачнулася, вельмі перапалоханая. Што будзе?

**Кася**

Кася! Твой сон нядобры. Глядзі, што робіш і надта пільнуйся. Падсцерагае цябе, а мо і тваю бабулю — небяспека. Той твой плач дае надзею, што небяспека міне.

**Астрон**

# Выстаўкі

У Сакольскім асяродку культуры адкрылі выстаўку карцін Рышарда Далькевіча з Гродна. Мастак аддае перавагу алейным і акварэльным фарбам, а таксама карыстаецца гуашшу і пастэллю. Тэмай ягоных карцін з'яўляецца перш за ўсё пейзаж, партрэты, кветкі ды нацюрморт.

Экспазіцыю можна будзе глядзець да паловы снежня гэтага года.

* * *

Да канца лістапада г.г. у Гайнаўскім доме культуры па вул. Беластоцкай 2 будзе адкрыта мастацкая выстаўка „Асеннія фактуры" членаў вядомай гайнаўскай маладзёжнай групы „Дэфармацыя", якую вядзе інструктарша ГДК Зінаіда Якуць. Агледзець яе можна кожны дзень (апрача панядзелкаў) у гадзінах працы ГДК. **(гай)**

***Ніва***, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

# Кароткі курс параноі

**Уводзіны**

Сталін напісаў „Кароткі курс ВКП(б), Хокінг — „Кароткую гісторыю часу", а я што, горшы за Сталіна? Галавешка ў мяне дубавейша? Ну і хай! Пакуль не геній. Але пацягацца з геніямі магу.

Возьмем Осю Джугашвілі. Без хаўруснікаў — слабак. Што яму было напісаць той „Курс"? Сабраў палітбюро, раздаў заданні. Дзейнічайце! І каб праз наццаць месяцаў нуль-нуль машынапіс ляжаў на маім стале. Як толькі яму прэміі за гэты твор не далі? Закароткі? Дык *краткость — сестра таланта*. Чэхава не чыталі? Паскромнічаў Ося, а геній. Каўказскі характар.

На ўсіх вялікіх працуюць калектывы, а слава аднаму „вялікаму". Біў у цэль на пераправе Вася Цёркін: *Кому память, кому слава, кому темная вода, — ни приметы, ни следа*. Расказваў мне Янка... Ну, Брыль: прыходзіць у іхні саюз генерал і камандуе: *Прикрепляйте писателя, книгу писать буду*. Бачыце, ён яе напіша.

Іншая рэч — кангеніяльны Сціўка Хокінг. Толькі адштурхваецца ад іншых. Адштурхнецца і саліруе на сваіх супер-струнах. Дух займае! Пасля яго нага канцэрта я і ныркую ў чорную адтуліну, наўпраслкі перабраўся ў іншы час. Наняў парабкаў. Асілкаў! Ад Арыстоцеля да Ельцына. Будуць працаваць на мяне. А што? Прымушу. Калі занатурацца — нашлю Кузьміну маць.

Мой курс без нуднай талмудыстыкі. Выкладу вам голыя факты, самы цымус, увяду ў лабірынты вялікай палітыкі, у цемру і цвіль, пакажу тромбы ў мазгах і сальта-мартале пярэкрутаў, адкрыю бліскучых мысляроў і ардынарных казлоў, пазнаёмлю з кабінетнымі пацукамі і эстраднымі пеўнікамі, завітаем у бардэль, навучу развязваць гордзіевы вузлы. Толькі не прыкідвайцеся, што вы не геданісты. Да сустрэчы.

Жыве параноя!

**Сідар Макацёр**

*Тлумачэнне:* параноя — хранічнае душэўнае захворванне, якое характарызуецца ўстойлівым трызненнем пры захаванні ў астатнім лагічнасці мыслення. (Грэч. paranoia — вар'яцтва). Геданізм — напрамак у этыцы, які сцвярджае, што вышэйшым ідэалам, мэтай жыцця з'яўляецца асалода, уцеха.

**З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне**

# Тры воблікі нацыяналізму

I. **нацыяналізм** — **1.** Рэакцыйная буржуазная ідэалогія і палітыка ў галіне нацыянальных адносін і культуры, якая грунтуецца на перабольшванні нацыянальных рыс, культываванні перавагі, выключнасці адных нацый перад другімі і распальванні нацыянальнай варожасці. **2.** Нацыянальны рух у прыгнечаных краінах за незалежнасць народа, нацы супраць іншаземных прыгнятальнікаў.

(*Тлумачальны слоўнік беларускай мовы*, том 3, Мінск 1979)

II. **нацыяналізм** — грамадска-палітычная пазіцыя і ідэалогія, якія пастулююць вышэйшасць інтарэсаў свайго народу, якія выяўляюцца ў нацыянальным эгаізме, у дыскрымінацыі іншых народаў, неталерантнасці і варожасці ў адносінах да іх.

(*Słownik języka polskiego* PWN, Warszawa 1995)

III. **нацыяналізм** — **1** моцнае пачуццё вернасці [адданасці, лаяльнасці] сваёй краіне. **2** (вера ў) палітычная пазіцыя або сістэма, якая абапіраецца на пачуцці, што (**a**) свая краіна павінна быць палітычна незалежнай; (**b**) свая краіна і свой шлях жыцця найважнейшыя.

(*Oxford Student's Dictionary of Current English*, Oxford University Press 1988).

* * *

З гэтай прыналежнасцю Польшчы да заходняй культуры, то, здаецца, нехта моцна нам нахлусіў. Цікава ці дапасоўванне законаў да нормаў Еўрасаюза прадугледжвае карэктуру слоўнікаў. Не сакрэт жа, што ў еўрасаюзнай Ангельшчыне нацыяналізм з'яўляецца сінонімам патрыятызму. А як у еўрасаюзнай Польшчы будзе тлумачыцца гэты тэрмін: па-англійску ці па-беларуску?

**Сцяпан Абух**

**Фрашкі пра нашых**

# Праўда пра Вандала А.

Калі забракуе мне тэмаў для фрашак
Або герояў ужо вартых не будзе (?!),
Тады гэта стане нядоляй ўжо нашай,
Бо смехам і жартам ратуюцца людзі.

Калі мне, старому, не схочацца біцца
Хоць з ворагам яўным, хоць з думкаю ўласнай,
Прышлеце верш гэты.
Вады каб напіцца,
Зноў студню скапаю. Для чыстасці яснай.

Не быўшы панурым як палітык ці клірык,
Не складваў я одаў, кантатаў ды трэнаў...
Спамянеце мяне:
Быў сабе... лірык...
Папраўдзе каханак Музы таемны.

**Вандал Арлянскі**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

На вуліцы сядзіць жабрак, перад ім картка з надпісам „Прашу міласціну. Уся мая маёмасць згарэла. Выратавалася толькі тое, што на мне". Пажылая жанчына хоча дапамагчы, але перш пытае:

— Ці маеце нейкі дакумент, які б пацвердзіў гэта няшчасце?

— Меў, але ён таксама згарэў у тым пажары.

* * *

— Ці абвінавачаны, крадучы ў краме тыя рубашкі, ні разу не падумаў пра сваю хворую маці? — пытае суддзя.

— Там, высокі суд, былі толькі мужчынскія рубашкі.

* * *

Пажылая жанчына ў лаўцы з гароднінай:

— Хачу купіць пяць кілаграмаў бульбы, але баюся, што не змагу данесці...

— Данясеце! Я вам адпаведна зважу.

* * *

Пажылая жанчына ўпершыню ляціць верталётам. Пасля старту звяртаецца да пілота:

— Будзьце ветлівы выключыць той вентылятар наверсе, а то страшэнна дзьме.

* * *

Лекар да сямідзесяцігадовай пацыенткі:

— У вашым узросце трэба аберагацца і як найменш хадзіць па лесвіцы.

Мінуў год і бабулька зноў з'яўляецца на кантрольнае даследаванне.

— І як сябе адчуваеце? — пытае ўрач.

— Намнога лепш, пан доктар. Маю толькі адно пытанне: ці магу ўжо хадзіць па лесвіцы?

— Можаце.

— Дзякуй Богу, бо караскацца па вадасцёкавай трубе на трэці паверх вельмі мяне мучыла.

* * *

Гутараць дзве пажылыя жанчыны:

— Мой узрост такі, як і нумар майго абутку, — гаворыць какетлівая адна.

— Цікава, — адказвае другая, — а колькі вам гадоў?

— Трыццаць пяць.

— Бедненькая... Уяўляю сабе, як ціснуць вам тыя боты.

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. Ганна, лідэр Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына", 7. абласны горад на Украіне, 8. праваднік суднаў, 9. каштоўны метал шэравата-белага колеру, 10. цыбульная расліна з белымі або жоўтымі кветкамі, 14. высокі старажытнагрэчаскі ўраднік, 18. беднасць, галеча, 19. любіцель, 20. жыхарка Харбіна, 21. застылы кусок расплаўленага металу.

**Вертыкальна:** 1. боязь, страх, 2. кароль вестготаў, які ў 410 годзе здабыў і разграбіў Рым (370—410), 3. горад у Маньчжурыі, 4. парадная зала для прыёму гасцей, 5. сярэдневяковы феадал-ваяка, 6. земляроб, 11. не існуючае ў свабодным выглядзе злучэнне атамаў азоту і вадароду, якое валодае ўласцівасцямі металаў, 12. даслоўная вытрымка з чужога выказвання, 13. гільза артылерыйскага снарада, 15. легендарны заснавальнік Рыма, 16. ансамбль з васьмі выканаўцаў, 17. жыве ў Анкары. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.